


**Беларуская лірыка XIX—XX стагоддзяў у перакладах Генадзя Рымскага**

Стар. 6.

БЕЛАРУСЫ Ў СВЕЦЕ

**ЯКУЦКІЯ НАТАТКІ Алеся БАРКОЎСКАГА**

Стар. 5.

**ЧЫРВОНЫ КАСЦЁЛ АБ'ЯЎЛЯЕ КОНКУРС**

Стар. 8

ЖЫЦЦЁВЫЯ СЮЖЭТЫ

**НА ХВАЛІ Маргарыты КАЛЬМАЕВАЙ**

Стар. 7.




**АГУЛЬНАЯ БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЕТА РАСПАЎСЮДЖВАЕЦЦА Ў 48 КРАІНАХ**

# Голас Радзімы

27 мая —3 чэрвеня 1999 года
Цана 17 000 рублёў

№№ 21—22

Штотыднёвая газета для суайчыннікаў за межамі Беларусі
Выдаецца з 1955 г.




**У апошнія гады жыцця народны мастак Анатоль Анікейчык ствараў "Пушкініяну". Ён казаў: "Мне не падабаюцца спробы рабіць з яго ідала. Бо Пушкін — Паэт, Чалавек, Сучаснік на ўсе часы, пакуль зямля наша рухаецца". І мей рацыю.**

*Да 200-годдзя з дня нараджэння Аляксандра Пушкіна.*

3 стар.



**У Жыровіцкім манастыры адбылося традыцыйнае свята Жыровіцкай іконы Божай Маці.**

3 стар.

ВАНДРОЎКА ПА БЕЛАРУСІ

### ЗАПРАШАЕ ІГАР ГАТАЛЬСКІ

**Я рады магчымасці правесці летнюю вандроўку па Беларусі з суродзічамі. А калі да беларусаў з Саўт-Рывера далучацца аматары вандровак з іншых краін, то ласкава запрашаем! Беларусь кліча ўсіх беларусаў свету, як птушак з выраю, на зямлю сваіх бацькоў і дзядоў.**

**Кантактны тэлефон Ігара Гатальскага: 0172, 61-35-30.**

*Падрабязнасці ў наступным нумары.*

АДВАРОТНАЯ СУВЯЗЬ

# ВЕРУ Ў ДОБРУЮ БУДУЧЫНЮ ГАЗЕТЫ!

Шаноўная рэдакцыя! З вялікай павагай, удзячнасцю і найлепшымі пажаданнямі піша вам даўні чытач "Голасу Радзімы" беларус з расійскага горада Тамбова Анатоль Гоўша.

Воляю лёсу з 1954 года апынуўся за межамі Беларусі, але ніколі з ёю не парываў, не цураўся роднай мовы, не забываў свае карані і адкуль я родам, заўсёды імкнуўся ёй спрыяць.

Уся мая працоўная дзейнасць прайшла ў Тамбове, куды быў накіраваны пасля заканчэння ў 1959 годзе Львоўскага політэхнічнага інстытута. Склалася яна вельмі ўдала. Меў усе ўмовы для прафесіянальнага росту, плённай працы і шчаслівага сямейнага жыцця. Знайшоў разуменне і падтрымку кіраўніцтва і калектыву ў сваім жаданні непасрэдна ўдзельнічаць у выкананні заказаў з Беларусі, якія былі стабільнымі. Гэта дало магчымасць мне, інжынеру-канструктару і навукоўцу, унесці свой пасільны ўклад у развіццё гуматэхнічнай прамысловасці Беларусі. У прыватнасці, у стварэнне і выраб абсталявання для вытворчага аб'яднання "Бабруйскшына"...

Нумары газеты "Голас Радзімы", выпушчаныя новай рэдакцыяй, выклікаюць добрыя ўражанні і сведчаць, што газета перайшла ў надзейныя рукі. Горача падтрымліваю намерператварыць газету "Голас Радзімы" ў агульную беларускую газету, у адно з самых значных і аўтарытэтных выданняў у Беларусі.

Веру, што яно так і будзе. Для здзяйснення высакароднага намеру рэдакцыі ёсць усе падставы: высакапрафесіянальны, патрыятычны, руплівы калектыў рэдакцыі, добразычлівыя і шаноўныя заснавальнікі, удзячныя і зацікаўленыя чытачы як за межамі, так і ў самой Беларусі, назапашаны былой рэдакцыяй багаты вопыт.

Так і хочацца пад назвай газеты напісаць перафразіраваны дэвіз — "Беларусы ўсяго свету, яднайцеся", бо ён больш за ўсё адпавядае духу і настрою газеты.

Лічу неабходным выказаць вялікую ўдзячнасць супрацоўнікам былой рэдакцыі і асабіста яе рэдактару Вацлаву Мацкевічу за іх плённую працу на ніве беларускасці. Жадаю ім усяго найлепшага.

Веру ў добрую будучыню газеты "Голас Радзімы".

Я веру ў Беларусь і ўпэўнены, што яна пераадолее ўсе напасці Чарнобыля, перашкоды і цяжкасці перыяду "цывілізаванага накаплення капітала-прыхватызацыі", як пераадолела вынікі акупацыі, зойме сваё пачэснае месца ў свеце, як заняла яго ў Арганізацыі Аб'яднаных Нацый пасля Вялікай Айчыннай вайны.

Жадаю супрацоўнікам газеты "Голас Радзімы" здзяйснення намераў і мар, адданасці Беларусі.

З павагай

**А. ГОЎША.**

Расія, г. Тамбоў.

ПАДПІСКА-99

### ШАНОЎНЫЯ ЧЫТАЧЫ!

**Пачалася падпіска на газету "Голас Радзімы" на другое паўгоддзе 1999 года.**

**Глядзіце наш падпісны індэкс у каталогах Беларусі, Украіны, Літвы, Казахстана, Кыргызстана.**

**З Расіі магчымы паштовы перавод на адрас "Голасу Радзімы" з паметкай "за падпіску". З іншых краін аплату можна перавесці на валютны рахунак:**

**3012202935017. Славянскае аддзяленне Беларускага бізнесбанка, код 834, абавязкова з паметкай: "Для рэдакцыі газеты "Голас Радзімы".**

**СЯБРЫ! "ГОЛАС РАДЗІМЫ" СПАДЗЯЕЦЦА НА ВАШУ ПАДТРЫМКУ.**

## ВІНШУЕМ ЛЮБІМУЮ АКТРЫСУ

**Стафанія Станюта!**

Вось ужо 80 год яна на сцэне — вечна маладая, прыгожая, непаўторная. Розныя вобразы, сотні спектакляў — здавалася б, можна і стаміцца. Але ж не. Стафанія Міхайлаўна не такая. Жыццё без сцэны не для яе. Вось і не перастае яна здзіўляць нас сваёй энергіяй, аптымізмам, бязмежнай адданасцю беларускаму тэатру, беларускаму мастацтву, усім нам — яе удзячным гледачам і паклоннікам. Віншуем!



НАПЯРЭДАДНІ

У Літве з вялікай цікавасцю чакаюць першую нацыянальную выставу Беларусі, якая адкрыецца 22 чэрвеня ў Вільнюсе. Цікавасць гэта не выпадковая: наша рэспубліка па выніках 1996—1998 гадоў займае ў знешнегандлёвым абароце Літвы трэцяе месца. У мінулым годзе экспарт беларускіх тавараў у суседнюю дзяржаву павялічыўся на 13,9 працэнта. Больш гандлюе Літва толькі з Расіяй і Германіяй.

У дні выставы плануецца візіт у Літву ўрадавай дэлегацыі на чале з прэм'ер-міністрам Сяргеем Лінгам.

NEWS FROM BELARUS * БЕЛОРУССКИЕ НОВОСТИ * BIALORUSKIE WIADOMOSCI * NOTICIAS DE BELARUS

## *Тыдзень: Фотафакты. Падзеі.*

ПЕРАПІС НАСЕЛЬНІЦТВА

### КОЛЬКІ НАС?

Нядаўна сталі вядомыя папярэднія вынікі перапісу насельніцтва. У сувязі з гэтым можна зрабіць першыя высновы, пазначыць найбольш актуальныя на сённяшні дзень праблемы, а таксама прааналізаваць дэмаграфічныя перспектывы нашай краіны.

У прыватнасці, паводле паведамлення Міністэрства статыстыкі і аналізу Рэспублікі Беларусь, за дзесяць год, што прайшлі пасля апошняга перапісу, нас стала менш. На сёння ў Беларусі пражывае 10 037 000 грамадзян, у той час як у 1989 годзе колькасць жыхароў складала 10 152 000 чалавек.

Характэрна, што жыхары рэспублікі з нязменным пастаянствам перабіраюцца з сельскай мясцовасці ў горад. Яшчэ сорак год назад, па даных першага пасляваеннага перапісу, працэнтныя суадносіны гарадскога насельніцтва і сельскага ў нашай краіне складалі 30,5 да 69,5. Сёння ўсё наадварот: 69,3 да 30,7.

Цяпер колькасць сталічных жахыроў складае 1 674 000 чалавек. У абласных цэнтрах: у Гомелі — 475 000 чалавек, Магілёве — 356 000, Віцебску — 340 000, Гродне — 301 000 і Брэсце — 286 000.

Як і ў ранейшыя гады, сёння ў нас мужчын менш, чым жанчын. І хаця перапіс гэтага года паказаў, што колькасная розніца скарачаецца, усё ж цяпер на 1 000 мужчын прыпадае 1 126 жанчын.

Найбольшая колькасць насельніцтва на сённяшні дзень у цэнтральнай частцы краіны: у Мінскай вобласці (разам са сталіцай) пражываюць 3 235 000 чалавек. Найменш жыхароў ва ўсходняй частцы Беларусі. Асноўная прычына: адток людзей з тэрыторый, забруджаных у выніку катастрофы на Чарнобыльскай АЭС.

МІНСК, ЗАХАРАВА 28. ДОМ ДРУЖБЫ



### ГУЛЬНЯ ЯПОНСКІХ ІМПЕРАТАРАЎ

**Ці ведаеце вы, што такое ГО! Гэта гульня вельмі папулярная ў Японіі. Кажуць, што ў Токіо на кожнай вуліцы можна знайсці клуб аматараў ГО. Існуе нават Саюз ГО Японіі. Сярод мільёнаў паклоннікаў гульні ёсць і прафесіяналы. У Еўропе кожны тыдзень у адной з краін праходзяць спецыяльныя спаборніцтвы.**

У Доме дружбы ў Мінску быў праведзены першы рэспубліканскі турнір па гульні ГО, арганізаваны Беларускім таварыствам дружбы, пасольствам Японіі і Клубам інтэлектуальных гульняў Усходу. Апошні ўзначальвае інжынер-электронік Мінскага паліграфічнага аб'яднання імя Я. Коласа Аляксандр Супанеў, ён і расказвае пра асаблівасці незвычайнай для нас гульні:

— ГО — самая старажытная гульня з вядомых сёння, ёй каля 4 000 гадоў. Рэквізіты — дошка і два камплекты каменяў чорнага і белага колеру. У свой час ГО нават была прадметам вывучэння вышэйшых военачальнікаў і японскіх імператараў.

Гэта вельмі карысная гульня, яна развівае пачуццё меры, псіхічную раўнавагу, цярплівасць, спакой, матэматычныя здольнасці, трэніруе памяць. Прафесійныя партыі доўжацца: бліц — 10 мінут, вялікая гульня — 6—10 гадзін. ГО заўсёды заканчваецца перамогай аднаго з ігракоў. Нічыіх не бывае.

**— Як вы даведаліся пра ГО!**

— У 1975 годзе ў часопісе "Наука и жизнь" з'явілася серыя артыкулаў пра ГО. Я вывучыў правілы, пачаў іграць. Калісьці я ездзіў на еўрапейскія турніры, на жаль, цяпер гэта немагчыма.

Узровень складанасці гульні вышэйшы за шахматы. Да сённяшняга часу не створаны камп'ютэрныя праграмы па гульні ГО.

**— Раскажыце пра Клуб інтэлектуальных гульняў Усходу.**

— Ужо трэці год у школе № 25 Мінска працуе клуб аматараў ГО. У ім займаюцца хлопчыкі і дзяўчынкі з 10 гадоў. Сярод іх ёсць тыя, хто прыходзіць, каб павысіць свой інтэлектуальны ўзровень, і тыя, хто проста хоча атрымаць задавальненне.

**— ГО — мужчынская гульня!**

— Наадварот, у літаратуры існуе думка, што жаночая. На сённяшні дзень менавіта жанчына — чэмпіёнка Еўропы, гэта галандка кітайскага паходжання.

**— Калі чакаецца наступны турнір па ГО!**

— Часовы паверааны ў справах Японіі ў Рэспубліцы Беларусь спадар Сігэо Нацуі прапанаваў зрабіць такія турніры пастаяннымі і праводзіць два разы на год. Наступны — восенню.

**Алена СПАСЮК.**

**Фота Віктара СТАВЕРА.**

НАВУКА

Дзесяць гадоў назад у Беларускай сельскагаспадарчай акадэміі ў Горках былі створаны кафедра сельгасбіятэхналогіі з экалогіі і біятэхналагічная лабараторыя. Цяпер гэта — адзін з найбуйнейшых біяцэнтраў у Беларусі, аснашчаны абсталяваннем для вучэбнай, навуковай і вытворчай дзейнасці. Тут выконваецца вялікі аб'ём навуковых даследаванняў. Створаны гібрыды таматаў для плёначных цяпліц "Полымя" і "Крыжачок". Гібрыд "Полымя" ўвайшоў у Дзяржаўны рэестр сартоў, пачалося яго насенняводства.

Знаходзяцца на выпрабаванні сарты таматаў для адкрытага грунту — "Гарант" і "Зорка". Распрацаваны метады кланальнага мікраразмнажэння кветак лілей і дурніц. За 1998 год выканана дзевяць навуковых праектаў на суму 1 мільярд рублёў, выраблена ў біяцэнтры пасадачнага матэрыялу бульбы, суніц, дэкаратыўных культур на суму больш за 400 мільёнаў рублёў. Штогод пастаўляецца з лабараторыі 50 тысяч прабірак бульбы, 25 тысяч вусоў суніц.

НА ЗДЫМКУ: загадчыца лабараторыі біятэхналогіі Святлана КУРГАНСКАЯ і прафесар, доктар біялагічных навук, загадчык кафедры біятэхналогіі і экалогіі Аляксандр КІЛЬЧЭЎСКІ аглядаюць доследныя ўзоры раслін.



Фота Генадзя СЯМЕНАВА, БелТА.

КРЫМІНАЛ

**Падчас правядзення спецыяльнай пагранічнай аперацыі "Мяжа — рубеж — май-99" пагранічнікі Лідскага пагранічнага атрада прадухілілі незаконны ўвоз на тэрыторыю Беларусі больш за чатыры тысячы літраў спірту.**

**У грузавым аўтамабілі "ЗІЛ-157", затрыманым пры спробе праехаць на тэрыторыю Беларусі па-за ўстаноўленым пунктам пропуску, былі знойдзены 22 бочкі са спіртам па 200 літраў кожная. Вадзіцель і пасажыр уцяклі.**

**Паводле папярэдняй ацэнкі, кошт кантрабанднага грузу перавышае 3 мільярды рублёў.**

ІНВЕСТЫЦЫІ

### ДРУГОЕ НАРАДЖЭННЕ БелАЗа

Маштабны інвестыцыйны праект пачаў ажыццяўляцца на Беларускім аўтамабільным заводзе. Нядаўна падпісана пагадненне аб выдзяленні першага транша замежнага крэдыту, які прызначаны для тэхнічнага пераўзбраення вытворчасці БелАЗа, пры гэтым уся сума намечаных для БелАЗа замежных інвестыцый складае 119 мільёнаў долараў.

— Мы ўжо пачалі тэхнічнае пераўзбраенне завода, і гэты крэдыт якраз дарэчы, — расказвае генеральны дырэктар БелАЗа Павел Марыеў. — А выдзяляе яго нам Чэшскі экспартны банк пры ўдзеле чэшскай фірмы "АЛТА" і нашага Белзнешэканомбанка. Крэдыт на 60 працэнтаў звязаны, г. зн. мы павінны ўзяць абсталяванне на адпаведную суму менавіта з Чэхіі. І гэта нас цалкам задавальнае.

З правядзеннем рэканструкцыі мы адначасова абновім сваё 80-, 160-тонікі і істотна павысім іх канкурэнтаздольнасць, асвоім вузлы, якія цяпер выпрабляюцца ў Расіі. Думаем таксама наладзіць выпуск цяжкіх кранаў грузападымальнасцю ад 50 да 200 тон, бульдозераў, грэйдэраў і іншай новай для нас тэхнікі.

### РАЗВІТАННЕ З МАРГАРЫТАЙ СТАРЫХ



**Трагічная вестка. Як заўсёды нечаканая, недарэчная. Адляцела ў вырай птушка Маргарыта. Таленавіты журналіст. Прывабная жанчына. З гадамі Маргарыта Старых усё больш уражвала сваім прыхільнікаў захопленасцю жыццём, невычэрпнай здольнасцю рабіць журналісцкія адкрыцці. У "Голас Радзімы" яна прыйшла са сваёй "Галерэяй майстроў". Потым былі не "Жыццёвыя сюжэты", развароты пра народныя беларускія святы, інтэрв'ю, рэпартажы з выстаў... Апошні аповед Маргарыты падрыхтаваны ў гэты нумар.**

**Яе жыццё абарвалася на высокай ноце.**

**Так балюча ўсведамляць, што Маргарыты Старых няма. Так многа засталося недагавораным...**

**Калегі.**

*САЦЫЯЛОГІЯ*

### ГАЛОЎНЫ КЛОПАТ — УМОВЫ ЖЫЦЦЯ

Як паказваюць апытанні грамадскай думкі ў Беларусі, большасць насельніцтва краіны даволі негатыўна ацэньвае стан эканомікі і ўмоў жыцця. Толькі 3,5 працэнта ўдзельнікаў апытання, якое нядаўна правёў Незалежны інстытут сацыяльна-эканамічных і палітычных даследаванняў, заўважылі ў мінулым годзе паляпшэнне свайго матэрыяльнага становішча. У той жа час аб пагаршэнні яго заявілі 76,1 працэнта з 1 666 рэспандэнтаў. Амаль 20 працэнтаў паведамілі, што іх становішча не змянілася.

Апытанне таксама дазволіла выявіць меркаванні беларусаў адносна наступстваў эканамічнага крызісу, які летась "падкасіў" эканоміку краіны. Найбольш адчувальным для насельніцтва аказаўся рост цэн. Гэта адзначылі тры чвэрці рэспандэнтаў. Другім па значнасці негатыўным наступствам беларуская грамадзяне лічаць скарачэнне асабістых даходаў, што таксама выклікае ў грамадстве неспакой. Так мяркуе палова ўдзельнікаў апытання. Трэцяя праблема — з'яўленне перабояў у гандлі прадуктамі і іншымі таварамі паўсядзённага попыту (гэта хвалюе каля трэці грамадзян). Акрамя гэтага, рэспандэнты адзначылі вяртанне нармiраванага продажу прадуктаў у адны рукі.

На гэтым фоне цалкам абгрунтаванымі выглядаюць турботы беларусаў адносна ўласнага матэрыяльнага становішча: сярод прычын непакою гэтая стаіць на першым месцы. Так лічаць 67,8 працэнта рэспандэнтаў. Нават стан здароўя хвалюе людзей менш (63 працэнты адказаў). Трэцяй небяспекай беларусы лічаць рост злачыннасці — 33,6 працэнта.

У сувязі з такім становішчам сацыёлагі пацікавіліся ў грамадзян, жыццё ў якой дзяржаве павінна быць прыкладам для беларусаў. У гэтым спісе па выніках апытання на першым месцы апынулася Германія. Рэйтынг папулярнасці гэтай краіны ў беларускім грамадстве склаў 37 працэнтаў. Другое месца займаюць ЗША (25 працэнтаў). Пасля ідуць Польшча (9 працэнтаў), Беларусь (5 працэнтаў), Кітай і Швейцыя (па 3 працэнты), Літва і Швейцарыя (па 2 працэнты), Латвія, Расія і СССР (па 1 працэнту).

**Ян ЛАХВІЧ.**



ДА 200-годдзя З ДНЯ НАРАДЖЭННЯ Аляксандра ПУШКІНА

У адзін з майскіх дзён сябры рэспубліканскага "Рускага таварыства" наведалі вёску Цялуша, што ў Бабруйскім раёне, дзе пахавана ўнучка вялікага рускага паэта Аляксандра Пушкіна — Наталля Пушкіна-Вельямінава.

Нас было чалавек сорак, у тым ліку і спевакі Рускага хору імя А. Нікіцінай, салісты Народнай вакальнай студыі Белсаўпрофа. Гасцей сустрэлі вельмі сардэчна: усё ж не так часта ў вёску, хаця і размешчаную амаль побач з горадам, прыязджаюць творчыя калектывы. Мы наведалі магілу ўнучкі паэта і ўсклалі кветкі.



А далей адбылося выступленне ў Цялушскай школе, у якой каля 300 навучэнцаў. Другі канцэрт прайшоў у Бабруйску ў Інстытуце эканомікі.

Гэтыя сустрэчы пераканалі: паэзія Пушкіна па-сапраўднаму аб'ядноўвае і зачароўвае самых розных людзей.

**Міхаіл ТКАЧОЎ,**
**старшыня рэспубліканскага "Рускага таварыства".**



## Якуб КОЛАС: «НЕ БЫЛО Б ПУШКІНА, НЕ БЫЛО Б, НАПЭЎНА, І МАІХ ПАЭМ...»



У экспазіцыі Дзяржаўнага літаратурна-мемарыяльнага музея Якуба Коласа выстаўлена пажоўклая ад часу кніга. Рэдкі экспанат прыцягвае ўвагу наведвальнікаў музея. Выдадзена кніга ў Мінску ў 1938 годзе Беларускім дзяржаўным выдавецтвам. Гэта пушкінская "Палтава" ў перакладзе на родную мову класіка беларускай літаратуры. "Пазнаёміўшыся з Пушкіным... — пісаў Якуб Колас, — я хадзіў узрушаны велічнымі карцінамі прыроды і, здавалася, чуў гул Палтаўскай бітвы, здавалася, мяне даганяў грозны коннік на ўздыбленым кані".

Творчая дзейнасць А. Пушкіна мела вялікае ўздзеянне на фарміраванне коласаўскага таленту, беларускі пясняр не пераставаў захапляцца ёю на працягу ўсяго жыцця. Паэт пісаў: "Калі б не было Пушкіна з яго "Яўгеніем Анегіным", "Медным коннікам", "Вольнасцю" і "Пасланнем у Сібір", "Капітанскай дачкой" і казкамі, не было б, напэўна, і маіх паэм "Новая зямля", "Рыбакова хата", маёй лірыкі і прозы."

Паэт М. Гарбачоў у артыкуле "Светлы лёс народа", прысвечаным паэме Якуба Коласа "Рыбакова хата", пісаў, што яна непасрэдна працягвае вялікія традыцыі рускай класічнай літаратуры, наглядна раскрывае іх плённасць для брацкіх літаратур. Адзначым, што сам верш Якуба Коласа, які ідзе ад пушкінскіх традыцый, верш моцны і гібкі, незвычайнай шырыні і выяўленчасці.

Вялікая любоў да пушкінскай паэзіі была і ў народнага паэта Беларусі Янкі Купалы.

Аляксандр Пушкін упершыню пазнаёміўся з Беларуссю, калі рабіў падарожжа з поўдня ў сяло Міхайлаўскае. Са шматлікіх матэрыялаў вядома, што паэт 5 жніўня 1826 года прыехаў у Нова-Беліцу. Назаўтра ён быў у Чачэрску. Пушкіну загадалі нідзе па дарозе не спыняцца, але ў Магілёве ён затрымаўся. Сюды прыехаў 6 жніўня. На паштовай станцыі яго сустрэлі афіцэры. З іх успамінаў стала вядома, што тут, на паштовай станцыі Магілёва, была наладжана ў гонар паэта гулянка.

З Магілёва Пушкін паехаў на Оршу, адтуль у Віцебск і Полацк, а 8 жніўня спыніўся ў Колпіна Віцебскай губерні. Гаспадара маёнтка паэт не застаў і пакінуў яму запіску, у якой сардэчна дзякуе "за яго завочную гасціннасць".

Вялікі ўплыў аказала пушкінская творчасць і на дзейнасць Максіма Багдановіча, які стаў прапагандыстам рускай класічнай літаратуры. Ён высока цаніў паэтычны геній А. Пушкіна, праяўляў павагу да яго паэзіі, адзначаў глыбокую сувязь твораў паэта з вуснай народнай творчасцю.

Літаратурная спадчына Пушкіна — сапраўдны дарадчык беларускіх паэтаў. Таленавіты беларускі паэт-лірык Паўлюк Трус пад уплывам паэмы Пушкіна "Цыганы" піша сваю яркую паэму "Цыганка". У выніку творчай вучобы ў Пушкіна, умелага выкарыстання беларускага фальклору П. Трус стварыў лірычныя вершы, паэмы, авеяныя радасцю і аптымізмам лірычнага героя.

Захапляўся творамі вялікага паэта і Змітрок Бядуля. У свой час ён напісаў апавяданне "Анчар", прысвечанае Пушкіну. У гэтым творы пісьменнік паказвае, як магутнае пушкінскае слова прабівала сабе дарогу да сэрцаў простых людзей, далучала іх да культуры.

Жыватворны ўплыў пушкінскай паэзіі заўважаецца таксама і ў беларускіх паэтаў П. Броўкі, П. Глебкі, П. Панчанкі, А. Куляшова, М. Танка...

Захапляючыся вялікім геніем, беларускія пісьменнікі пераклалі на родную мову амаль усе творы Пушкіна: "Меднага конніка" — Янка Купала, "Палтаву" — Якуб Колас, "Яўгенія Анегіна" і "Цыганы" — Аркадзь Куляшоў, "Барыса Гадунова" — Пятро Глебка, "Аповесці Белкіна" — Кузьма Чорны, лірычныя вершы, казкі і іншыя творы — Максім Танк, Пятрусь Броўка, Максім Лужанін і Алесь Якімовіч.

**Мікола ЖЫГОЦКІ.**

## АРМАНДС КРУЗЕ: «СУСЕДЗІ СВАРЫЦЦА НЕ ПАВІННЫ»

*Гутарка з віцэ-консулам Латвіі ў Беларусі*

**— Спадар Крузе! Вы працуеце ў Беларусі пяць гадоў. Маглі б вы падвесці вынік сваёй дзейнасці!**

— Вынікі дзейнасці консульства Латвіі ў Віцебскай вобласці мяне задавальняюць. Пяць гадоў назад консульства пачынала сваю працу з арэнды памяшкання без якой-небудзь аргтэхнікі і мэблі. Сёння мы размяшчаемся ў выдатным двухпавярховым доме ў цэнтры горада, маем карэспандэнцкі пункт па афармленню віз у Браславе, уласную абнаўляемую старонку ў Інтэрнеце, і ўжо пяць гадоў пры консульстве працуе латвійская нядзельная школа. Што тычыцца працэдуры выдачы віз у консульстве, то ўвесь гэты працэс даведзены да аўтаматызму. Са студзеня 1994 года, калі была выдадзена першая віза, паслугамі консульства карысталіся больш за 30 тысяч чалавек, жыхары Віцебскай і Магілёўскай абласцей, а таксама шэрагу рэгіёнаў Расіі. Паспяхова дзейнічае дагавор аб памежным супрацоўніцтве. Па ўмовах дагавора жыхары бліжэйшых да граніцы раёнаў могуць перасякаць яе без віз у межах пятнаццацікіламетровай зоны.

У актыў дзейнасці консульства Латвіі ў Віцебскай вобласці неабходна таксама ўнесці і беларуска-латвійскі праект па стварэнню інфармацыйнага цэнтра ў Краславе, задача якога — рэгулярны і каардынаваны абмен інфармацыяй паміж органамі самакіравання памежных рэгіёнаў Латвіі і Беларусі. Праект ужо рэальна дзейнічае. Больш таго, у снежні 1998 года Еўрасаюз адкрыў фінансаванне ў памеры 26 339 экю. На апошняй нарадзе членаў каардынацыйнага савета памежнага супрацоўніцтва да Беларусі і Латвіі далучылася Літва, унёсшы ў гэты праект свае прапановы.

Поўнасцю задавальняе мяне і супрацоўніцтва з мясцовымі ўладамі. Лепшым доказам узаемаразумення з кіраўніцтвам Віцебскай вобласці з'яўляюцца штогадовыя Дні латвійскай культуры ў Віцебску і беларускай — у Рызе, прычым гэта ўзаемаразуменне праяўляецца не толькі на арганізацыйным узроўні, але і ў сферы фінансавай падтрымкі гэтых мерапрыемстваў.

**— Якія перспектывы эканамічнага супрацоўніцтва паміж Латвіяй і Беларуссю!**

— Больш чым абнадзейваючыя. Падставай для гэтага сцвярджэння служаць ужо існуючыя рэальныя вынікі.

На сённяшні дзень у знешнім гандлёвым абароце Беларусі Латвія займае пятае месца, дасягнуўшы летась 266 мільёнаў долараў. Што тычыцца знешнегандлёвага абароту Віцебскай вобласці з Латвіяй, то пасля Расіі і Украіны ён займае трэцяе месца. У 1998 годзе аб'ёмы знешняга гандлю Віцебскай вобласці з Латвіяй выраслі на 45 працэнтаў, склаўшы пры гэтым 60 мільёнаў долараў. На тэрыторыі вобласці створана сем сумесных беларуска-латвійскіх прадпрыемстваў і тры са 100-працэнтным латвійскім капіталам.

Патэнцыял супрацоўніцтва вялікі. У прыватнасці, сёння дапрацоўваецца праект па стварэнню вытворчасці вядомых беларускіх тэлевізараў "Віцязь" на тэрыторыі свабоднай эканамічнай зоны ў Рэзекне (Латвія), а латвійскі банк "Parex" згадзіўся прадаставіць крэдыты для развіцця такой вытворчасці.

Нядаўна мне давялося быць у Рызе на выставе беларускіх вытворцаў, "Belarusexpo-99". Выставу адкрылі беларускі і латвійскі віцэ-прэм'еры Леанід Козік і Анатоль Гарбуноў. Абодва выказалі ўпэўненасць, што выстава дасць новы імпульс развіццю эканамічных адносін паміж Латвіяй і Беларуссю. Гэтаму ж, несумненна, будуць садзейнічаць і перагаворы, што адбыліся нядаўна паміж Леанідам Козікам і латвійскім прэм'ерам Вілісам Крыштопансам, у ходзе якіх была дасягнута дамоўленасць аб візіце спадара Крыштопанса ў Беларусь. Чакаецца, што ў час гэтага візіту да 37 ужо існуючых пагадненняў паміж Латвіяй і Беларуссю дабавяцца яшчэ каля дзесяці, галоўным з якіх павінна стаць пагадненне аб перавозках грузаў. Гэты дакумент падвядзе прававую базу пад беларускі транзіт праз латвійскія парты.

Наша дзяржава вельмі ўважліва ставіцца да праблем Беларусі, робячы ўсё магчымае, каб памагчы суседу. Бо суседзі сварыцца не павінны.

ЖЫЦЦЁ КАНФЕСІЙ

## ШТОГАДОВАЕ ВІТАННЕ ЖЫРОВІЦКАЙ СВЯТЫНІ

У суботу 22 мая ў Жыровіцкім манастыры адбылося традыцыйнае свята Жыровіцкай іконы Божай Маці. Кожны раз з падобнай нагоды тут збіраецца вялікая колькасць вернікаў. Так адбылося і сёлета, калі падзея ў Жыровічах супала яшчэ і з святкаваннем Узнясення Хрыстовага. На свяце прысутнічаў свяшчэннаархімандрыт манастыра, мітрапаліт Мінскі і Слуцкі Філарэт, патрыяршы Экзарх усяе Беларусі.



Цудадзейная ікона Жыровіцкая вядомая з 1470 года. Яна вельмі шануецца вернікамі, а таксама робіць надзвычайнае ўражанне на кожнага, хто яе пабачыць. Цікавыя звесткі маюцца наконт паходжання абраза. Кажуць, нібыта ў час вайны забралі ікону ў Маскву, каб правесці аналіз матэрыялу, з якога яна зроблена. Але поўнага адказу так і не атрымалі. Было толькі заўважана: тую тэмпературу, што спатрэбілася б для плаўлення саставу, у часы, калі ікона з'явілася людзям, атрымаць было немагчыма. Вось такая тайна дайшла да нашых дзён.



**НА ЗДЫМКАХ: ікона Жыровіцкай Божай Маці; мітрапаліт Мінскі і Слуцкі Філарэт у час святкавання; паслушнік А. Бембель; цудоўнае надвор'е спрыяла святу.**

**Фота Уладзіміра КАЛАШНІКАВА.**





Яўген ЛЕЦКА.

# ЗАКАХАНЫЯ ЗЛАТАЮ ПРАГАЙ

ЭСЭ

НА ЗЯМЛІ шмат вабных для аглядання мясцін і ўражлівых славутасцямі гарадоў. Асабіста мяне найбольш закахала "краіна замкаў" Чэхія і яе стольны горад — Злата Прага, гэты незвычайны каменны цуд, па якім можна блукаць бясконца, кожны раз адкрываючы для сябе нейкую новую цікавасць.

Чэхі — народ высокай культуры, глыбока асэнсаванага і адначасова трапяткога стаўлення да сваёй духоўнай спадчыны. Мо таму, што і яны ў сваёй гісторыі перажылі трагічныя часіны, калі чэшская мова знаходзілася на мяжы памірання. Паўсюль, ад гарадскіх дахаў да саламяных сялянскіх стрэхаў, запанавала нямецкая мова, усё настырней пранікаючы ў аддаленыя ад цывілізаваных цэнтраў вёсачкі і хутары. Размаўляць тады па-чэшску лічылася непрэстыжным, а то і ганебным. Карацей, народ здранцвеў і духоўна змізарнеў. Але, як выявілася, рана было адпяваць яму хаўтуры. Бо з'явіліся будзіцелі, якія настойліва і пераканана пачалі заклікаць суродзічаў пазбавіцца сваёй нацыянальнай глухаты і слепаты. І народ ачнуўся, стаў гаспадаром на ўласнай зямлі. Але і ў часы сацыялізму Чэхія ўражвала адухоўленасцю і чалавечнасцю, добра ўсталёваным ладам жыцця. І яшчэ: уменнем аб'яднаць вакол сябе тых, хто быў ці мог стаць прыяцелем і сябрам гэтай краіны, гэтага народа і яго культуры ў вялікім свеце. Менавіта дзеля гэтага і была створана Летняя школа славяназнаўства ў Празе. Яе навучэнцамі і выпускнікамі сталі тысячы людзей з розных краін і кантынентаў. Умовы для заняткаў былі створаны ідэальныя, яны праводзіліся на філасофскім факультэце аднаго з найстарэйшых у Еўропе Карлава універсітэта.

Апрача Прагі, некалькі дзён адводзілася на падарожжы па Чэхіі і Маравіі. Як жа цікава было насычацца маляўнічымі краявідамі. Культура ў чэхаў свеціцца ва ўсім і паўсюль. Яны здолелі захаваць, а дзе і адбудаваць сваю духоўную спадчыну, зрабіць яе гонарам нацыі і выгадна паказваць іншым народам. Турыстаў там процьма. Чэшскія замкі і палацы маюць найбагацейшыя калекцыі зброі, паляўнічых трафеяў, строяў, посуду, мэблі, твораў мастацтва, што засталіся і зберагліся ад колішніх уладальнікаў. Апрача гэтага, амаль у кожным можна трапіць на канцэрт класічнай ці народнай музыкі, паслухаць нацыянальныя спевы, папрысутнічаць на рыцарскіх турнірах, конных і пешых.

Зразумела, што ўся гэтая атмасфера, увесь побыт спрыяў наладжванню цёплых чалавечых дачыненняў і адносін. Асабліва калі сустракаліся натуры тонкія, паэтычныя. Агеньчык прыязнасці спакваля разгараўся і перарастаў у пачуццё моцнага, трывалага сяброўства паміж беларускім паэтам Сяргеем Панізьнікам і амерыканкай Дагмар Топінкай-Волкат.

Амерыканцы, як вядома, — народ з усяго свету сабраны. Сям'я Топінкаў вымушана была пакінуць родную Маравію і эмігрыраваць за акіян у 1948 годзе, пасля таго як у Чэхаславаччыне ў выніку перавароту да безраздзельнай улады прыйшлі камуністы. Дзяўчынка нарадзілася на амерыканскай зямлі і навучалася на англійскай мове. І вершы пачала пісаць таксама па-англійску — яшчэ адно пацвярджэнне таго, што творчасць патрабуе арганічнасці самавыяўлення, а таму нацыянальна адметнай па сутнасці і мове можа быць толькі на роднай зямлі. І гэта мы бачым на ўласным беларускім досведзе. Янка Запруднік, напрыклад, і ў навуковай, і ў мастацкай форме арганічна выяўляе сваю сутнасць на роднай мове. Але ягоная дачка Вера, што нарадзілася і выхоўвалася ў Злучаных Штатах, уважаючы сябе беларускай патрыёткай, піша вершы па-англійску. Чэшскай патрыёткай выхоўвалі бацькі і Дагмар. Тое, што яна апынулася на Летняй школе славяназнаўства ў Златай Празе, не было выпадковым.

У Сяргея Панізьніка першае знаёмства з гэтай краінай адбылося значна раней. Згадаю тут пачутую калісь ад польскіх турыстаў показку. Піша іх жаўнер дахаты ліст з Чэхаславаччыны, куды ён трапіў у 1968 годзе ратаваць ад "контррэвалюцыі" сацыялізм. Напачатку, маўляў, у гэтай краіне ім было вельмі цікава, але ўсё ўжо аб'ехалі і паглядзелі, а таму становіцца сумнавата. Ды капрал падбадзёрвае: пацярпіце крыху, ваяцы, калі будзеце сябе добра паводзіць, то начальства абяцае наш узвод накіраваць на выцечку (экскурсію) у Румынію.

Вось на такой своеасаблівай "выцечцы" ў Чэхіі і быў тады Сяргей Панізьнік. Ён, выпускнік Львоўскай вышэйшай палітычнай вучэльні, удала пасоўваўся па службе і ў Прагу ўвайшоў у чыне капітана, супрацоўніка дывізійнай газеты. Як належыць складвалася і сямейнае жыццё. Быў жанаты на красе і надзеі беларускай паэзіі Жэні Янішчыц, з якой гадавалі сваю ўцеху і радасць — маленькага сыночка Андрэйку.

У Львове Сяргей не толькі набыў прафесію вайсковага журналіста, але і атрымаў добрую нацыянальную закваску. Ён, беларускі паэт, не мог не параўноўваць стан украінскай мовы і культуры ў Заходняй Украіне, дзе яна панавала паўсюль, з тым, што тварылася ў той час на яго Радзіме. Таму падчас прыездаў на пабыўку ў Беларусь падкрэслена размаўляў з усімі і ўсюды толькі на роднай мове. Знаходзілася нямала такіх, хто з вуснаў савецкага афіцэра ўспрымаў такое ці як дзівацтва, ці як знарочлівую дэманстрацыю на людзях свайго нацыяналізму. Такія паводзіны не маглі быць незаўважанымі. І калі аднойчы ўзгарэлася, магчыма, знарок падагрэтая вострая гаворка пра матывы і задачу ўводу войскаў Варшаўскага дагавора ў Чэхаславаччыну, С. Панізьнік у запале выказаў тое, што думаў. А гэта разыходзілася з афіцыйнымі ўстаноўкамі.

Уявіце сітуацыю: афіцэр палітычнага ўпраўлення, журналіст газеты "Патриот Родины" (адна назва чаго вартая — той, хто яе прыдумляў, кіраваўся, мабыць, прынцыпам, што кашу маслам не сапсуеш!), і раптам...

Было ўстаноўлена, што ганебныя настроі і паводзіны члена КПСС Сяргея Панізьніка невыпадковыя. Ён, выявілася, тут, у Празе, сустракаўся з "ярым" нацыяналістам Міхасём Забэйдам-Суміцкім, які нават на чужыне не адцураўся роднай мовы і, дзе толькі мог, выступаючы ў славутых канцэртных залах свету, прапагандаваў беларускія песні. Разам з ім ды яшчэ адной эмігранткай з Беларусі Надзеяй Кастэцкай С. Панізьнік наведваў славуты ў Празе могільнік на Альшанах, дзе, кажучы радкамі верша Рыгора Семашкевіча, "маршалы нацыі спяць" — першыя прэзідэнты БНР Пётра Крычэўскі і Васіль Захарка. Зайшлі асабісты на кватэру Панізьнікаў, і (які жах!) там заміж партрэта роднага тады ўсім савецкім людзям Леаніда Ільіча, а вайскоўцам — маршала Усцінава, была выява яшчэ аднаго "нацыяналіста" — Францішка Скарыны.

Добра ўсёператросшы, службісты знайшлі ў сямейным фотаальбоме здымак Сяргеевага дзядзькі, які да вайны працаваў шахцёрам у Францыі. Зняты ён быў разам з дзеячамі ўкраінскай і польскай эміграцыі на фоне партрэта Тараса Шаўчэнкі і плаката з надпісам "Дэмакраты ўсіх краёў, яднайцеся", які сведчыў, што пралетарскім інтэрнацыяналізмам і класавай свядомасцю ў гэтым хаўрусе і не пахла. Карацей, след вёў за мяжу. А калі так, то ўзнікала зусім рэальнае падазрэнне аб супрацоўніцтве маладога капітана савецкай арміі з заходнімі спецслужбамі. Канкрэтна ўстанавіць віны, праўда, не ўдалося, але ж і без гэтага назбіралася досыць, каб звольніць з войска і адправіць Панізьніка ў Беларусь. Следам за ім пакацілася так званая "цялега" ў службовыя інстанцыі з устаноўкай праявіць належную пільнасць у дачыненні да паэта-нацыяналіста. Саюзу пісьменнікаў, да якога ён належаў, рэкамендавалася апальнага паэта выключыць са сваіх шэрагаў. Ды тут здарылася нечаканая асечка: на тайным галасаванні большасць не падтрымала такой прапановы, што для Сяргея было вялікай маральнай падтрымкай. Трэба было жыць і зарабляць кавалак хлеба. У друк, зразумела, дарога была наглуха зачынена. Прыдалася набытая адразу пасля заканчэння сярэдняй школы спецыяльнасць фельчара. Уладкавацца на працу паспрыяў старэйшы сябра, на той час руплівы апякун свядомай беларускай моладзі Алесь Траяноўскі. І пачаў С. Панізьнік шнураваць па Мінску на машыне хуткай дапамогі з траўматалагічнай брыгадай...

Амерыканская грамадзянка поўнымі захаплення вачыма пазірала на гэтага незвычайнага беларуса, які ўспрымаўся сапраўдным героем, што пацярпеў за мілую яе сэрцу Чэхію. Калі б пачула пра такое ад некага іншага — ніколі не паверыла б, што за нейкія неасцярожна сказаныя словы чалавека могуць пазбавіць звання, звольніць з войска, пакарэжыць службовае і сямейнае жыццё...

Сяргей па-маладому ўзнёсла распавядаў ёй пра Беларусь, пра яе слаўнае мінулае, а потым трагічны шлях праз вякі, пра новае адраджэнне, набыткі культуры, пра беларускіх пісьменнікаў. Чытаў на памяць вершы, і Дагмар была зачаравана мелодыкай мілагучнага беларускага слова, народным духам творчасці Купалы, Коласа, Мележа, Танка... Але найбольш уразіла, што яе ўлюбёны мастак Марк Шагал, як выявілася, не толькі нарадзіўся ў Віцебску, але і жывіўся ў творчасці матывамі з беларускай рэчаіснасці...

Непрыкметна праляцелі тыя жнівеньскія дні ў прапахлай спелай садавінай Златай Празе. Але сяброўства засталося трывалым і працягвалася ў перапісцы.

Дагмар даслала яму вялікі пачак уласных, выдатна выкананых здымкаў, на якіх адбіўся і іх шпацыр па асвечанай сонечным і месячным святлом Празе, і не менш рамантычнае падарожжа па Чэхіі і Славакіі. Ад імя Дагмар частку здымкаў Сяргей падараваў Скарынаўскаму цэнтру, дзе тады працаваў. "Прытулак Скарыны" — гэта фотаагляд зямлі чэхаў і славакаў, дзе калісьці мог быць слаўны палачанін. Другая частка здымкаў экспануецца ў прыватным літаратурна-этнаграфічным музеі Сяргея Панізьніка "На шляху з грэкаў у варагі", які месціцца на беразе Дзвіны ў вёсцы Цітаўцы Верхнядзвінскага раёна Віцебскай вобласці. Там Сяргеевы чорнабелыя фотаздымкі мяжуюцца з каляровымі Дагмар Волкат. Але адрасат іх памкненняў адзін — Злата Прага.

ТАК, ім абаім карцела зноў трапіць у гэты дзівосны горад, а жаданні натыкаліся на ростань у тысячы кіламетраў. Але і такую адлегласць могуць, абавязкова могуць пераадолець роднасныя паэтычныя душы. Тое, пра што марылася, неўзабаве і здзейснілася. Сустрэча на гэты раз адбылася не ў горадзе на Влтаве, а на Няве, у Санкт-Пецярбургу, куды Дагмар прыехала разам са студэнтамі універсітэта горада Калумбус, дзе яна працуе выкладчыцай. І зноў новы цуд пазнання: светлыя, напоўненыя паўночным ззяннем ночы, гэтая вечная, непаўторная крыніца натхнення паэтаў.

Але ўсё неўзаметку мінаецца, ластаўкай адлятае ў замроеную далячынь. І зноў расстанне, і зноў чаканне — растрывожаны покліч душы, што ўвасабляўся ў паэтычныя радкі. Сяргею ў Дагмар усё ўяўлялася ўзнёслым, загадкавым і невядомым. Паўтараў яе імя, услухоўваўся ў гукі, лавіў іх невідочны патаемны сэнс, стараўся лагічна растлумачыць значэнне слоў **Дагмар Топінка-Волкат.** Вырашыў параіцца са сваім чэшскім сябрам, слаўным доктарам філалогіі Міраславам Зімам, які ведае добры дзесятак замежных моў, свабодна чытае, размаўляе і піша па-беларуску на дапасаванай ім самім да нашай мовы лацінцы. Неўзабаве прыйшоў адказ, па-навуковаму грунтоўны. Вось толькі фрагменты з яго:

"DAHMAR" — дацкая каралева, па-дацку: dagr-дзень, па-чэшску: ден; дацкае: maerr, старажытнанямецкае: maro, у славянкіх мовах: -mar, -mer, -mir-славный, известный, вядомы, выдатны;

значэнне: dennica, заранка, дзянніца, denice, дзённая зорка, дзённая звязда, па-грэчаску: eos; гэтаю зоркаю бывае часта планета Венера, па-чэшску таксама: Venuše, Věnuše. Калі зорка Венера з'яўляецца ўвечары (ды не толькі раніцай), то яе завуць у чэшскай мове Večerka, Večernice (Вячэрка, Вечарніца).

Але паэтычнае беларускае слова Мілавіца (народная назва зоркі Венера) найбольш дапасавалася Сяргеем да імя Дагмар. Падыходзіў да акна, сцішваўся і падоўгу ўзіраўся ў зорнае неба, шукаючы там сваю Мілавіцу вечаровай і ранішняй парою...

Між тым набліжаўся вялікі для Амерыкі юбілей — 500-годдзе адкрыцця Хрыстафорам Калумбам гэтага кантынента. Сяргей паслаў на прымеркаваны ЮНЕСКА да гэтай даты конкурс нізку сваіх вершаў і атрымаў дыплом. Вестка была радаснай для абаіх. Дагмар заканчвала перакладаць на англійскую мову кнігу вершаў С. Панізьніка і ва ўласнай паэтычнай творчасці таксама перажывала натхненне, стала лаўрэатам аднаго з прэстыжных амерыканскіх конкурсаў.

На абшарах Савецкага Саюза ўсё большую моц набірала гарбачоўская "перестройка", дзякуючы якой рушылася жалезная заслона паміж Усходам і Захадам, уздоўж і ўпоперак трашчала адладжаная дзесяцігоддзямі, змацаваная крывёю ахвяр сістэма. У выніку сталі магчымымі паездкі ў замежныя краіны тады ўсё яшчэ савецкіх грамадзян. Сяргей Панізьнік канчаткова пазбавіўся праследу, ганенняў і атрымаў свабоду, якую набывалі ўсе. Зорка Мілавіца разгаралася ўсё ярчэй і ярчэй, зваблівa клікала да сябе ў далёкую Амерыку. Якраз быў пярэдадзень трыдцыйнай для амерыканскіх беларусаў Сустрэчы, якая праводзіцца па розных беларускіх асяродках Злучаных Штатаў і Канады.

XIX Сустрэча была незвычайнай. Упершыню за ўсю савецкую гісторыю на яе з'язджаліся госці не толькі з заходніх і ўсходніх капіталістычных краін, але і з самой Беларусі. І Сустрэча гэтая адбывалася ў новазбудаваным "Палацаку" — культурна-грамадскім цэнтры беларусаў, што пражываюць у Кліўлендзе (штат Агаё). Менавіта ў гэтым штаце нарадзілася, жыве і працуе Дагмар.

"Палацак" уразіў абаіх. І сам палац, і асабліва людзі, узрушаныя, душэўна і духоўна прасветленыя, абнадзеяныя. Дагмар са слоў Сяргея ведала, якую духоўную і маральную трагедыю перажывае яго народ пасля шматгадовага нацыянальнага ўціску. Ды тады ўжо якраз набірала моцы імкненне і беларусаў да дзяржаўнай самастойнасці. Яны ўсё больш рашуча атрасалі пыл і цяжар мінулага...

НЯДАЎНА Сяргей Панізьнік атрымаў ад Дагмар Топінка-Волкат новую прапанову — спаткацца ў Скарынавай Празе. Год сустрэчы — двухтысячны, на пераломе эпох. Бо і Злата Прага — "мацічка мнест" — таксама стаіць на пераломе новых шляхоў.

Запрашэнне прынята з разуменнем і ўдзячнасцю...





Сяргей ПАНІЗЬНІК

## ПЕРЛАМУТРАВЫЯ ВЁСЛЫ

*Для Дагмар Топінка-Волкат у штат Агаё.*

*Нечаканаю прапажай,*
*як дзіця, я даражу.*
*І вакол планеты нашай*
*чуйным промнікам кружу.*
*Столькі ў свеце непагоды!*
*Пірэнеіцца падман:*
*аж да статуі Свабоды*
*не развеяны туман...*
*З Ніягараю пакуты —*
*павалоку не прабіць:*
*чуйны промнік як закуты...*
*Без яго мне не любіць*
*і на выгібах планеты*
*не знайсці тваё жытло, —*
*каб сустрэліся паэты,*
*каб іх промнікі звяло*
*у адно вязьмо вясёлкі —*
*асуседзіць шар зямны.*
*Хай бы вершы-навасёлкі*
*выплывалі са струны*
*і гучалі на абшарах*
*апазнанай любаты*
*на маім баку паўшар'я*
*і на тым, дзе сёння ты.*
*Ноч пяройдзе ў дзень узнёслы*
*на Калумбавай мяжы.*
*Перламутравыя вёслы*
*ад прапажы беражы!*



БЕЛАРУСЫ Ў СВЕЦЕ

# ЯКУЦКІЯ НАТАТКІ АЛЕСЯ БАРКОЎСКАГА

## ГІПОТЭЗА МАРЫЯНА ДУБЕЦКАГА

Украінскі гісторык Марыян Дубецкі (1838—1926) за ўдзел у паўстанні 1863—1864 гадоў (сакратар Русі (Украіны) у Рамуальда Траўгута) быў сасланы ў Забайкалле. У Сібіры ён захапіўся вывучэннем лёсаў выхадцаў з абшараў былой Рэчы Паспалітай, цікавіўся архіўнымі дакументамі, якія не дайшлі да сучасных даследчыкаў. У адной з прац ён пісаў: "Якутовіч, шляхціц з Літвы (г. зн. з Беларусі), дарогаю няволі апынуўся ў паўночнай Азіі ды зрабіўся пазней камандзірам збройнай грамады, з якой адкрыў невядомую зямлю ў сярэдняй плыні ракі Лены, дзе жыў народ, які называў сябе Саха. Народ Саха ад прозвішча Якутовіча, свайго адкрыўцы, атрымаў назву якутаў, пад гэтым імем зараз вядомы ва ўсім свеце"

Далей М. Дубецкі паведамляе, што болей падрабязна пра Якутовіча ён пісаў у выданні "Bluszcz".

Каб атрымаць ксеракопію артыкула М. Дубецкага, пішу (па-беларуску) у Львоўскую навуковую бібліятэку імя В. Стэфаніка Акадэміі навук Украіны, і праз нейкі час у Якуцк прыходзіць адказ (паўкраінску) з наступным зместам: "На жаль, мусім канстатаваць, што ў газеце "Bluszcz" за 1871—1873 гады няма "Лістоў з Сібіры" М. Дубецкага.

Што ж, неабходны далейшыя пошукі, хаця трэба адзначыць, што ў Беларусі існуе вёска Якуты (Дзяржынскі раён Мінскай вобласці), вёска Якуціна (Віцебскі раён), дзе жыве шмат Якутавых і Якутовічаў. Дарэчы, па даных перапісу насельніцтва ў 1989 годзе, у Мінску жылі 22 якуты.

## «РАГНЕДА» Ў КІНЕМАТОГРАФЕ П. НІКУЛІНА 1914 ГОДА

Канец XIX стагоддзя. Свет уступае ў эру кіно. У 1894 годзе, падчас вучобы ў Льежы, Казімер Прушынскі (1875—1945), сын вядомага публіцыста, менчука Конрада Прушынскага, канструюе адзін з першых кінаапаратаў...

Пасля заканчэння службы ў Якуцкім казачым палку адстаўнік П. Нікулін захапіўся сінематографам. Ужо напрыканцы чэрвеня 1912 года ў абласной газеце "Якутская окраина", рэдактарам якой была ўдава былога паўстанцкага камандзіра Мельхіёра Чыжыка — З. П. Чыжык, з'явілася наступнае паведамленне: "У залі абласнога музея в 8 гадзіне вечара будзе дэманстравацца сінематограф Бр. Патэ". Ад 29 ліпеня сінематограф А. Нікуліна ў Якуцку ўжо паспачаў працу штодзённа. Уваходныя квіткі каштавалі ад 25 капеек да 1 рубля. За адзін сеанс паказвалі 6—8 карцін. З 19 жніўня 1912 года сінематограф П. Нікуліна пачалі называць "тэатрам-ілюзіёнам П. І. Нікуліна". Карціны дэманстраваліся без гуку, таму іх суправаджалі ігрою на піяніна. У антрактах іграў духавы аркестр, а пасля заканчэння паказу ладзіліся танцы. Напрыканцы лета 1913 года П. І. Нікулін займеў у сваім "тэатры-ілюзіёне" ўласную электрычнасць.

1 лютага 1914 года ў газеце "Якутская окраина" з'явілася наступная абвестка:

"У нядзелю 2 і панядзел. 3 лют. г. г., як і заўсёды новая цікавая і вялікая па якасьці гэтак і па колькасьці карцін

Праграма

Рагнеда".

Далёка па ўсёй паўднёвай Русі славілася прыгажосьцю і мудрасьцю Рагнеда, дачка Полацкага князя Рагвалода, і вось іх бліжэйшы сусед Уладзімір, князь Кіеўскі, вырашыў пасватацца да прыгажуні. З багатымі дарункамі з'явіліся пасьлы рускага князя прасіць рукі Рагнеды, але гордая дачка ворага адказала ім здзеклівай адмовай ды градам кпінаў. Ашалелы атрыманай абразай, Уладзімір сабраў дружыну і, узяўшы прыступам Полацк, забіў Рагвалода і абвясціў ягоную дачку сваёй жонкай. Рагнеда, прытаіўшы гора і нянавісць, згадзілася, але ў першую ж ноч, калі поўныя радасьці пераможцы балявалі ў княскіх харомах, яна прабралася да палонных, вызваліла свайго каханага — выражскага віцязя Інгульфа і дала яму клятву жорстка адпомсціць забойцы свайго бацькі... Прайшло 7 год. У Рагнеды нарадзіўся сын Ізяслаў, яна змагла прызвычаіцца і пакахаць мужа і цалкам забылася на дадзеную клятву. Аднойчы на паляванні мядзведзь падмяў князя, і дрэнна яму б прыйшлося, калі б на ягоныя крыкі не прыбег Інгульф, які вяртаўся пасля шматгадовых блуканняў да сваёй Рагнеды.

Ударам кінжала вораг вызваліў Уладзіміра, і ўдзячны князь, які не пазнаў Інгульфа, прыняў яго ў сваю дружыну. Сустрэча Інгульфа абудзіла ў душы Рагнеды былую нянавісць і нагадала аб нявыкананай клятве. У той жа дзень пад уплывам Інгульфа яна робіць спробу забіць соннага мужа, але Уладзімір прачынаецца і паспявае выхапіць нож з рук жонкі. Жахлівы гнеў князя, але хлопчык Ізяслаў становіцца паміж бацькамі ды выратоўвае Рагнеду. Рагнеда, як бы прачнуўшыся ад страшнага сну, просіць прабачэння ва Уладзіміра ды паказвае на Інгульфа, як на віноўніка замаху. Інгульф спрабуе выратавацца ўцёкамі. Праследуемы ворагам, ён кідаецца ў раку і, паранены стралой, гіне".



ЯКУТСКАЯ ОКРАИНА.

№ 27

Въ аптекарскомъ магазинѣ Е. Г. Олейниковой

Въ мастерской Е. Н. Суровецкой

ВЪ КЛУБѢ О-ВА ПРИКАЗЧИКОВЪ

Кинематографъ

П. И. НИКУЛИНА

ОБРАТИТЕ ВНИМАНІЕ

ПРОГРАММА

РОГНѢДА

Гэтая ж абвестка была паўторана ў наступным, 27 нумары газеты "Якутская окраина" за 2 лютага 1914 года. На жаль, няма звестак, як жыхары Якуцка ўспрынялі легенду аб падзеях даўняй гісторыі Беларусі.



Фота Сяргея ХАЛАДЗІЛІНА, БелТА

**У ціхіхую вёску Ціхінічы, што ў Рагачоўскім раёне дзякуючы стараннем яе ўраджэнца, а цяпер загадчыка кафедры Маскоўскага універсітэта Міхаіла РАСОЛАВА, сталі прыходзіць карціны расійскіх мастакоў. І сабралася іх ужо больш двухсот пяцідзесяці. Так што адчыняй, мясцовая школа, сваю мастацкую галерэю. А настаўніку працы — ён жа кіраўнік школьнага гуртка дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва — Мікалаю ЛУКАШЭВІЧУ і яго выхаванцам клопатаў дабавілася: гэта ж колькі адных рамак зрабіць трэба!**

З НОВАГА ДАВЕДНІКА

# БЕЛАРУСЫ Ў РАСІІ

## (РАСІЙСКАЙ ФЕДЭРАЦЫІ)

Пачаўся новы масавы прыток перасяленцаў з Беларусі праз сістэму аргнабору. З 1946 да 1963 года такім чынам выехала 530 тысяч чалавек, большасць з якіх асела ў Расійскай Федэрацыі. Так, у Карэліі яны склалі 11 працэнтаў усяго насельніцтва і 15 працэнтаў сельскіх жыхароў (1959). Пасля вайны перасяленні ў аддаленыя раёны Расіі мелі і прымусовы характар: дэпартацыя многіх з тых, што па розных прычынах засталіся на акупіраванай тэрыторыі і добраахвотна ці прымусова супрацоўнічалі з немцамі, каго ваеннае ліхалецце занесла за мяжу (ваеннапалонныя, остарбайтэры, андэрсаўцы), высяленні з заходніх абласцей БССР заможных сялян ("кулакоў") у сувязі з ажыццяўленнем тут прымусовай калектывізацыі.

Далейшую дынаміку міграцыі беларусаў у РСФСР ілюструюць наступныя лічбы: іх колькасць у 1959 годзе —844 тысячы, 1970-м — 964 тысячы, 1979 — 1 мільён 52 тысячы, 1989 годзе — 1 мільён 206 тысяч чалавек. Калі ў 1959 годзе беларусы складалі 0,7 працэнта жыхароў Расіі, то ў 1989 годзе — 0,8 працэнта. У гэты час каля 80 працэнтаў іх пражывала ў гарадах. Такая вялікая прысутнасць беларусаў з усіх сацыяльных слаёў стала вынікам партыйна-дзяржаўнай палітыкі стымулявання ўнутрыдзяржаўнай міграцыі (вярбоўкі, грамадскія заклікі на новабудоўлі, планавае размеркаванне выпускнікоў вышэйшых і сярэдніх спецыяльных установаў).

У еўрапейскай частцы Расіі найбольш шматлікія і кампактныя беларускія асяродкі да канца 80-х гадоў склаліся ў Маскве і Маскоўскай вобласці (каля 130 тысяч), Санкт-Пецярбургу і Ленінградскай вобласці (больш за 127 тысяч), Калінінградскай вобласці (каля 74 тысяч), Карэліі (55,5 тысячы), Краснадарскім краі (каля 37 тысяч). Найбольшую долю адносна ўсяго насельніцтва беларусы складалі ў Карэліі, Калінінградскай і Маскоўскай абласцях — 11 працэнтаў.

Аб масавым прытоку беларускага насельніцтва ў Сібір і на Далёкі Усход, яго ўдзеле ў асваенні гэтых рэгіёнаў сведчыць хоць тое, што ў Іркуцкай вобласці іх асела каля 74 тысяч, Цюменскай — 49 тысяч, Краснаярскім краі — каля 34 тысяч. Сотні тысяч інжынерна-тэхнічнай інтэлігенцыі і рабочых удзельнічалі ў сацыяльна-эканамічным развіцці Сібіры і паўночных раёнаў Расіі. Нямала беларусаў і іх нашчадкаў займалі ў РСФСР значныя дзяржаўныя пасады, сталі кіраўнікамі прадпрыемстваў, грамадскімі і культурнымі дзеячамі, вядомымі вучонымі (дыпламат А. Грамыка, даследчык Арктыкі акадэмік О. Шміт, вядомы вучоны ў галіне кіруемага сінтэзу Л. Арцымовіч, заснавальнік геліябіялогіі Л. Чыжэўскі, гісторык М. Улашчык, псіхолаг Л. Выгоцкі, матэматык І. Брайцаў, А. Маліноўскі заклаў фундамент новай навукі — кібернетыкі, сусветную вядомасць набыў авіяканструктар П. Сухі).

У адпаведнасці з курсам на збліжэнне і зліццё нацый савецкія ўлады ігнаравалі нацыянальна-культурныя патрэбы беларусаў, як і іншых народаў СССР. У рэгіёнах РСФСР адсутнічалі правы арганізаванай нацыянальнай беларускай дзейнасці, а нацыянальныя асяродкі не мелі ні маральнай, ні матэрыяльнай падтрымкі з боку улад БССР. Гэта стала адной з прычын іх паскоранай асіміляцыі. Не толькі нашчадкі, але і многія перасяленцы ў першым пакаленні запісваліся рускімі. Паводле перапісу 1989 года, беларускую мову роднай лічылі ад 28 да 37 працэнтаў беларусаў у Расіі. Але большасць з іх працягвалі захоўваць пэўныя этнічныя прыкметы: беларускае вымаўленне, адметнасці ў харчаванні, веданне народных традыцый, культуры. На пачатку 1970-х гадоў з'явіліся першыя нефармальныя (створаныя па ініцыятыве знізу) культурныя суполкі ў Маскве: Клуб аматараў "Песняроў", часовыя студэнцкія гуртки ў маскоўскіх ВНУ, якія мелі характар зямляцтваў.

Карэнныя зрухі ў грамадска-палітычным і сацыяльна-эканамічным жыцці з сярэдзіны 1980-х гадоў спрыялі нацыянальна-культурнаму абуджэнню беларусаў у РСФСР, стварэнню ў

Працяг.
Пачатак у №№ 9—12, 15—16.

(Працяг на 6-й стар.).

## СВЕТЛАЙ ПАМЯЦІ Міколы ГАНЬКО,

### старшыні Згуртавання беларусаў Канады

Напярэдадні свайго 75-годдзя ў Канадзе ад цяжкай, працяглай хваробы памёр вядомы дзеяч беларускай эміграцыі Мікола Ганько. Увесь яго жыццёвы шлях быў звязаны са змаганнем за беларускую ідэю, нацыянальнае адраджэнне і дзяржаўную незалежнасць Беларусі.

Мікола Ганько нарадзіўся на Маладзечаншчыне. Падзеі другой сусветнай вайны вымусілі яго пакінуць Бацькаўшчыну і апынуцца ў эміграцыі. Доўгія гады сп. Ганько ўзначальваў Згуртаванне беларусаў Канады, быў актыўным арганізатарам беларускага грамадскага нацыянальна-культурнага жыцця ў Таронта. У 1993 годзе прыязджаў у якасці дэлегата на Першы з'езд беларусаў свету, быў сябрам Рады Згуртавання беларусаў свету "Бацькаўшчына". Неаднаразова потым наведваўся ў Беларусь, усёй душою радаваўся добрым пераменам і перажываў за будучыню Беларусі. Лёс роднае зямлі быў яго болем і клопатам. Ад нас адышоў добры чалавек, шчыры патрыёт і мужны змагар. Спадар Ганько пакінуў па сабе добрую памяць. Няхай яна будзе вечнаю!

**Управа Згуртавання беларусаў свету "Бацькаўшчына".**

**З НОВАГА ДАВЕДНІКА**

# БЕЛАРУСЫ Ў РАСІІ

(Працяг. Пачатак на 5-й стар.).

канцы 80-х гадоў нацыянальных культурна-асветных арганізацый у Маскве (суполка студэнцкай моладзі "Пагоня", 1987; Таварыства беларускай культуры імя Ф. Скарыны, 1988) і Санкт-Пецярбургу (Беларускае грамадска-культурнае таварыства, 1988). Аднак моцныя праявы дэнацыяналізацыі беларусаў спрычыніліся да больш позняга нацыянальнага адраджэння, якое закранула меншую долю суродзічаў у параўнанні з іншымі дыяспарамі.

**Сучасны стан беларускай дыяспары ў Расійскай Федэрацыі (1992—1998).** Істотным фактарам змены міграцыйных працэсаў, паскаральнікам далейшага гуртавання беларусаў, выяўлення і рэалізацыі іх нацыянальных культурна-асветных патрэб стала набыццё Беларуссю незалежнасці і звязанае з гэтым паглыбленне працэсаў дзяржаўнага, нацыянальна-культурнага адраджэння на Бацькаўшчыне, фарміраванне новай палітыкі ў дачыненні да замежных суайчыннікаў.

На момант распаду СССР 1 мільён 155 тысяч беларусаў апынуліся ў Расійскай Федэрацыі. У наступныя гады выразна праявілася тэндэнцыя да вяртання іх на Бацькаўшчыну, хоць з 1993 года гэты працэс запаволіўся, бо рэпатрыяцыя адбываецца без дзяржаўнай падтрымкі, а сацыяльна-эканамічная сітуацыя ў краіне застаецца складанай. За 1992—1997 гады Беларусь прыняла з Расіі 97 тысяч беларусаў — амаль 50 працэнтаў ад агульнай колькасці прыехаўшых (194 тысячы асоб). За гэты ж час у Расіі склалася найбольшая беларуская дыяспара ў свеце. У апошнія гады яна папоўнілася, пераважна па эканамічных прычынах, дзесяткамі вучоных, прадстаўнікоў творчай інтэлігенцыі, перспектыўнымі спартсменамі. Многія прадпрымальнікі перанеслі сваю дзейнасць у Расію ў сувязі з больш спрыяльнымі падатковымі, інвестыцыйнымі ўмовамі гаспадарання. Адметнасць сучаснага стану беларускай дыяспары — наяўнасць значнай часовай працоўнай міграцыі. Жыхары Беларусі ўладкоўваюцца найчасцей вадзіцелямі гарадскога транспарту, будаўнікамі. На паліўна-энергетычным комплексе Расіі працуе ад 5 да 10 тысяч вахтавікоў (маятнікавая міграцыя). У 1993 годзе Беларусь і Расія падпісалі пагадненне аб працоўнай дзейнасці і сацыяльнай абароне грамадзян на тэрыторыі абедзвюх дзяржаў. Адмена Федэральнай міграцыйнай службай Расіі з 1996 года дазволу на працаўладкаванне грамадзян Беларусі на яе тэрыторыі, увядзенне рэгістрацыйнага парадку павялічыла прыток новых работнікаў. За першае паўгоддзе 1996 года больш за 10 тысяч грамадзян Беларусі знайшлі работу ў Расіі. Пэўная колькасць асоб уладкоўваецца ў Расіі нелегальна.

Абвяшчэнне незалежнасці Беларусі, працэсы нацыянальнага адраджэння пачатку 1990-х гадоў актывізавалі культурна-асветную, нацыянальную дзейнасць расійскіх беларусаў. Спрыяюць захаванню традыцый свайго народа, яго мовы, гісторыі, культуры, папулярызацыі іх у Расіі беларускія суполкі ў Маскве, Санкт-Пецярбургу, Петразаводску, Саснагорску, Якуцку, Калінінградзе, Ніжнім Ноўгарадзе, Новасібірску, Цюмені, Арэнбургу, Омску, Краснаярску, Іркуцку, Цвяры, Ноўгарадзе, Яраслаўлі, Петрапаўлаўску-Камчацкім. Пачатак царкоўна-рэлігійнага жыцця на нацыянальнай аснове на постсавецкім абшары закладзены сябрамі Маскоўскага таварыства беларускай культуры, якія ў 1991 годзе заснавалі уніяцкую і каталіцкую суполкі. Беларусы-вернікі Санкт-Пецярбурга арганізавалі праваслаўную абшчыну.

Творчыя, навуковыя здабыткі беларускіх мастакоў, пісьменнікаў, вучоных, якія жывуць і працуюць у Расіі, узбагачаюць культуру, навуку Беларусі і Расіі. Актыўна працуе суполка мастакоў Санкт-Пецярбурга (І. Чарнякевіч, В. Сівуха, Ю. Казак, М. Ткачэнка), належыць беларускай культуры творчая спадчына таленавітага літаратара І. Ласкова (1941—1994, Якуцк), пісьменнікаў А. Кірвеля, А. Кавалюк, І. Сібілы (Санкт-Пецярбург). Спрыяюць развіццю беларусікі ў Расіі грунтоўныя публікацыі А. Каўкі, Я. Шыраева, Л. Шчавінскай (Масква), В. Грыцкевіча, І. Маціеўскага, М. Нікалаева (Санкт-Пецярбург), А. Катлерчука (Бранск), М. Ількевіча (Смаленск). Найбольш ініцыятыўныя навуковыя асяродкі склаліся ў Маскве, Санкт-Пецярбургу, Новасібірску. У расійскіх навуковых цэнтрах праявілі свой талент выдатныя вучоныя-беларусы: хімік В. Капцюг (1931—1997), геолаг А. Трафімук, касманаўты П. Клімук і У. Кавалёнак, фізікі Ж. Алфераў, Б. Галеркін, хімікі В. Гальдански, У. Міткевіч, Ф. Шапіра.

Пасля набыцця Беларуссю незалежнасці адбыліся істотныя змены ў яе адносінах да дыяспары. З 1990 года дзейнічае Згуртаванне беларусаў свету "Бацькаўшчына", з якім падтрымліваюць сувязі расійскія беларусы. Больш іх патрэбамі стала цікавіцца таварыства "Радзіма". Прадстаўнікі беларускіх суполак Расіі былі ўдзельнікамі Першага сходу беларусаў блізкага замежжа (снежань 1992), Першага (ліпень 1993) і Другога (ліпень 1997) з'ездаў беларусаў свету. У адпаведнасці з дзяржаўнай праграмай "Беларусы ў свеце" аказваецца падтрымка расійскім беларусам. Міжнародны дагавор, які ў 1995 годзе падпісалі Беларусь і Расія, прадугледжвае магчымасць свабоднага выяўлення, захавання і развіцця для суродзічаў этнічнай, культурнай, моўнай, рэлігійнай самабытнасці. Кіраўнікі Беларусі, урадавыя дэлегацыі пры наведванні Расіі сустракаюцца з суродзічамі. З улікам спецыфікі ўзаемаадносін Беларусі і Расіі (існаванне Саюза, стымуляванне інтэграцыйных працэсаў) і наяўнасці соцень тысяч беларусаў у Расіі, асіміляцыя якіх адбываецца хутчэй у параўнанні з іншымі этнасамі, асабліва клопату і падтрымкі Бацькаўшчыны патрабуе культурна-асветная работа суродзічаў.

Тэма беларусаў у Расіі асэнсоўваецца ў працах: Абецедарский Л. С. Белорусы в Москве XVI в. Мн., 1957; Верещагин П. Д. Крестьянские переселения из Белоруссии (вторая половина XIX в.). Мн., 1978; Грицкевич В. П. От Немана к берегам Тихого океана. Мн., 1986; яго ж: Беларуска-рускія перасяляні ў XIV—XVIII ст. ст. (Спадчына, 1993, № 3—5); Лещенко Г. Ф. Переселения из Белоруссии в Поволжье и Сибирь (конец XVI—XVII в.). Автореф. дисс... канд. ист. наук. Мн., 1983; Григорьева Р. А. Белорусы (Народы России. М. 1994. С. 110—113) і іншых.

Раздзел падрыхтавала **Галіна СЯРГЕЕВА.**

**БЕЛАРУСКАЯ ЛІРЫКА XIX—XX СТАГОДДЗЯЎ У ПЕРАКЛАДАХ ГЕНАДЗЯ РЫМСКАГА**

# КІБЕРНЕТЫК ВЫБІРАЕ ПАЭЗІЮ

***Сярод кібернетыкаў сустракаю нямала асоб неардынарных, са шматграннымі інтарэсамі і захапленнямі. Магчыма, спецыялістам па агульных законах кіравання ў прыродзе і грамадстве, камп'ютэрных тэхналогіях і аўтаматызацыі разумовай працы даводзіцца займацца разнастайнымі справамі, і ў іх ёсць магчымасць выявіць сябе ў некалькіх накірунках інтэлектуальнай дзейнасці. Ці можа на пераломе тысячагоддзяў людзі імкнуцца асэнсаваць уласны і народны лёс і адлюстраваць яго ў якой-небудзь мастацкай форме?***

***Хачу прадставіць чытачам вядомага ў Беларусі і за яе межамі навукоўца ў галіне кібернетыкі Генадзя Рымскага. Ён доктар тэхнічных навук, прафесар, член-карэспандэнт НАН Беларусі, акадэмік шэрагу міжнародных акадэмій.***

***Аднак Г. Рымскі праявіў сябе не толькі высокакваліфікаваным даследчыкам кібернетыкі, але і добрым знаўцам беларускай паэзіі. Ён сам піша вершы і на беларускай, і на рускай мовах. А яго пераклады вызначаюцца трапнасцю, тонкім пранікненнем у змест і дух твораў беларускіх паэтаў розных пакаленняў, узростаў і лёсаў.***




**Мікола САВІК,**
член Міжнароднай акадэміі інфармацыйных тэхналогій.

ПРЫГОЖАЯ кніга называецца "Беларуская лірыка XIX—XX стагоддзяў у перакладах Генадзя Рымскага". Выдадзена ў Маскве напрыканцы мінулага года выдавецтвам "Русский двор" (448 с.). На вокладцы арнамент, што так часта можна бачыць на беларускіх паясах, ручніках, нацыянальным адзенні.

Лаканічную, але змястоўную прадмову напісаў Міхаіл Расолаў, прызнаны празаік, паэт, доктар навук, прарэктар аднаго з маскоўскіх інстытутаў, беларус, член Саюза пісьменнікаў Расіі, аўтар раманаў пра развал СССР "Жнівеньскі зорапад", "Цяжкае перапуцце", кнігі апавяданняў "Дрэва дабра і зла" і іншых, лаўрэат прэміі "За духоўнае адраджэнне" ў 1997 годзе.

Ужо з-за назвы і афармлення аматар паэзіі і ўвогуле адукаваны чалавек наўрад ці зможа раўнадушна прайсці міма гэтай кнігі. Але больш цікава, хто з беларускіх паэтаў за два стагоддзі ды якімі творамі прадстаўлены ў ёй. Ці бездакорны ўзровень перакладу адабраных твораў, ці не парушылася адметнасць аўтарскай задумы і дэталяў яе ўвасаблення? Нарэшце, якія мастацкі густ і эстэтычныя, грамадзянскія пазіцыі перакладчыка і ўкладальніка?

У кнізе змешчаны выбраныя творы 59 беларускіх аўтараў ад У. Сыракомлі да нашых сучаснікаў. Класікі М. Багдановіч, Ф. Багушэвіч, Я. Колас, Я. Купала, І. Канчэўскі, В. Вітка, А. Вялюгін, К. Крапіва, П. Панчанка, М. Танк, А. Куляшоў, У. Караткевіч, П. Броўка, А. Зарыцкі, А. Русак, П. Пестрак. Тут жа прадстаўлены неабгрунтавана рэпрэсіраваныя паэты, якія адседзелі ў гулагаўскіх лагерах да 10—20 гадоў: С. Грахоўскі, А. Звонак, У. Дубоўка, У. Хадыка. Расстраляныя 29—30 кастрычніка 1937 года М. Чарот, Ю. Таўбін. Можна толькі пашкадаваць, што не трапілі ў зборнік вершы расстраляных у тыя ж жахлівыя для беларускай літаратуры дні выдатных паэтаў В. Маракова, І. Харыка, А. Дудара, Т. Кляшторнага, Ю. Лявоннага (былі расстраляны яшчэ 12 пісьменнікаў, усяго ж рэпрэсіравана за гады сталіншчыны звыш 200 беларускіх пісьменнікаў). Побач з імі Р. Барадулін, Г. Бураўкін, А. Вярцінскі, Н. Гілевіч, С. Законнікаў, В. Зуёнак, А. Лойка, П. Макаль, Я. Сіпакоў, А. Ставер, Э. Агняцвет. Паэты беларускага замежжа Н. Арсеннева, У. Дудзіцкі, М. Сяднёў, А. Салавей (а іх жа больш дваццаці!). Нашы сучаснікі Р. Баравікова, К. Камейша, Г. Каржанеўская, У. Някляеў, У. Скарынкін, М. Стрыгалёў, М. Федзюковіч, Я. Янішчыц. Кагорта маладых талентаў: В. Аколава, Э. Акулін, В. Гіруць-Русакевіч, Т. Глазоўская, А. Зэкаў, З. Марозаў, А. Пісарык і іншыя вядомыя прадстаўнікі прыгожага пісьменства.

Не сакрэт, што некаторыя не вельмі дасведчаныя людзі схільныя разглядаць літаратурны пераклад як справу другарадную, нескладаную. Гэта вялікая памылка. Г. Рымскі ўкладае ў кожны перакладны твор шмат назапашаных ведаў, часцінку сваёй душы і сэрца, творчае натхненне. Імкнецца глыбока спасцігнуць светаўспрыманне паэтаў, іх пачуцці і думкі, стылістыку і энергетыку твораў, вобразную сістэму. Для яго пераклад — гэта сатворчасць і адказнасць за тое, каб чытач адчуў багацце і прыгажосць пераўвасобленага на іншую мову твора. А найбольш цяжкія пераклады, як слушна адзначыў Уладзімір Някляеў на літаратурна-музычнай вечарыне з нагоды 85-х угодкаў з дня нараджэння слыннага Аркадзя Куляшова, акурат з бліжэйшых моў, у тым ліку з рускай на беларускую і з беларускай на рускую мову, бо найперш церпіць энергетыка вершаў. Упэўнены, што ў зборніку Г. Рымскі выявіў шырокі літаратурны досвед, акрэсленыя эстэтычныя пазіцыі. Яму ўдалося дасягнуць мэты, якую ставіў перад сабой, — захаваць непаўторны почырк, настрой і адметнасць аўтараў, іх тэматычную і лексічную асаблівасць, шматфарбнасць і мелодыку іх твораў, хараство беларускай зямлі, яе людзей і прыроды, роздум над лёсам Беларусі, яе культуры, мовы.


*Каля помніка Т. Касцюшку. Вашынгтон, 1972 год (у час навуковай стажыроўкі ў Джорджстаўнскім універсітэце).*

Высокую ацэнку перакладам, якія зрабіў Рымскі, далі Сяргей Грахоўскі і Васіль Зуёнак. Яны аўтарызавалі свае творы, апублікаваныя ў зборніку. Ухваліў пераклады вершаў і раздзелаў паэм Якуба Коласа яго малодшы сын — Міхась Міцкевіч, доктар тэхнічных навук і дасціпны літаратар.

Адносна перакладу сваіх твораў "Мая LORELEJ", "Як малітва", "Бачанне Радзімы", "Адзінства хараства", "Развітанне" Масей Сяднёў даслаў такі водгук з Глен Коў (ЗША): "З вялікай прыемнасцю прачытаў пераклады Генадзя Рымскага. Цікавы і самы адбор вершаў для перакладу. Важна, што і ў перакладзе вершы не страцілі свайго духу, свайго пафасу. Прывет слаўнаму перакладчыку. М. С." (З ліста да Лідзіі Савік 17.05.98 г.)

Кніга заканчваецца вершамі незабыўнай Яўгеніі Янішчыц, 50-годдзе з дня нараджэння якой мы з гонарам за яе творчасць і адначасова болем і горыччу нядаўна адзначалі. Яе словы ў перакладзе Г. Рымскага можна адрасаваць усім прыхільнікам беларускай паэзіі, якая кранае іх і якую яны бязмежна любяць:

Не по чинам, не по одежде,
А как поклон нижайший дню, —
Я поздравляю, как и прежде,
Свою духовную родню.

Усё мае свой сэнс і сваё прызначэнне. "Палеская летуценніца" Я. Янішчыц — ці не самая трапятка, шчымлівая наша паэтэса, якая сваімі душэўнымі вершамі і сваім незвычайным, нібы яркая камета, жыццём пакінула аб сабе добрую памяць. Генадзь Рымскі доўжыць памяць аб ёй, як і аб іншых паэтах, праз рускую мову сярод іншых народаў.

Пры падрыхтоўцы згаданай кнігі Г. Рымскі часта кансультаваўся ў членаў Саюза пісьменнікаў Беларусі: акадэміка В. Каваленкі, членаў-карэспандэнтаў У. Гніламёдава, М. Мушынскага, дактароў навук В. Жураўлёва, С. Лаўшука, іншых спецыялістаў па беларускай літаратуры і перакладу. Пералічаныя абставіны, а таксама абмеркаванне на секцыі мастацкага перакладу СП Беларусі ў 1997 годзе змяншаюць ступень магчымай выпадковасці, суб'ектыўнасці падбору аўтараў і іх твораў для данага зборніка.

А тое, што зборнік складзены не прафесійным літаратарам, а як бы староннім, незалежным экспертам, вучоным ў галіне дакладных навук, што добра валодае сістэмным падыходам пры вывучэнні розных фізічных і грамадскіх з'яў, і адначасова паэтам і перакладчыкам, дабаўляе яму аб'ектыўнасці. У Г. Рымскага свежы погляд, незаштампаванасць. "Аўтарскай перакладной анталогіяй" назваў яго паэтычную кнігу прафесар Вячаслаў Рагойша на міжнародным семінары перакладчыкаў. Гэта ўжо прызнанне з боку прафесіянальных літаратуразнаўцаў і крытыкаў.

Адзнакай майстэрства Г. Рымскага стала таксама прапанова выдавецтва "Русский двор" падрыхтаваць анталогію беларускай паэзіі за ўсе часы на рускай мове.

Нядаўна Г. Рымскі атрымаў з Англіі паведамленне і віншаванні з нагоды таго, што Міжнародны біяграфічны цэнтр у Кембрыджы ўключыў яго ў лік 2 000 найвыдатнейшых вучоных свету XX стагоддзя.



ЖЫЦЦЁВЫЯ СЮЖЭТЫ

# НА ХВАЛІ МАРГАРЫТЫ КАЛЬМАЕВАЙ



*Такіх заўзятых падарожнікаў, як Маргарыта Кальмаева, цяжка знайсці. Сейшэльскія, Канарскія, Бермудскія, Маршалавы астравы, атол Уйэк, Антарктыда, Балівія, Марока, Ангола, Аўстралія, Аляска, Карэя, Канада, Ватыкан... Гэты спіс можна доўжыць і доўжыць, бо ён уключае 247 краін і аддаленых кропак на зямлі — такая геаграфія падарожжаў гэтай надзвычайнай кабеты, якая з лёгкасцю перасякае ўсе граніцы, бо яна даўно і актыўна займаецца ... радыёаматарствам.*




*Маргарыта КАЛЬМАЕВА і Браен ТОРДАФ у Мінску.*

...ГЭТА БЫЎ незвычайны вечар, напоўнены цяплом, утульнасцю, дружалюбствам і зносінамі, якія самым цудоўным чынам пераносілі нас з аднаго кантынента на іншы.

Маргарыта Іванаўна ўключыла сваю хатнюю рацыю, і ў невялікую кватэрку ў Зялёным Лузе Мінска ўварваўся шматмоўны свет эфіра.

— Гэта швед працуе, — тлумачыла гаспадыня. — А гэта італьянец з радыёаматарам з Самарканда размаўляе — дае рэкамендацыі, як лепш паставіць антэну, каб чутнасць добрая была. Вось і калега з'явілася, зараз даведаемся, што за дама... Не, нешта змоўкла...

...На стале побач з рацыяй ваеннага ўзору аб'ёмны апаратны журнал, дзе фіксуецца кожны выхад у эфір і сувязь, якая адбылася. І тут проста неабходна прывесці яшчэ адну значную лічбу: за гады радыёаматарства (пачала ў 1957 годзе) Маргарыта Кальмаева мела больш за 45 тысяч кантактаў у эфіры. Самі разумееце, што ўсё гэта не магло застацца незаўважаным: у Маргарыты Кальмаевай сто дваццаць дыпломаў рознай годнасці. Некаторыя даволі маляўнічыя і незвычайныя, як, напрыклад, шведскі, выкананы на тоўстай ільняной тканіне.

— Дыплом палярных экспедыцый "Савецкая Арктыка", — каменціруе яна некаторыя прызы і дыпломы. — Я працавала з усімі станцыямі. А гэта — вельмі каштоўны дыплом імя Крэнкеля: трэба было звязацца з усімі мясцінамі на Поўначы, дзе ён калісьці працаваў.

Ёсць яшчэ ў гэтай яркай і стракатай калекцыі адзін зношаны пажоўклы дыплом, але ён сведчыць, што Маргарыта Кальмаева — майстар спорту па радыёаматарству. А яшчэ яна 25 гадоў была нязменным сакратаром Федэрацыі радыёспорту Беларусі і не адзін год аддала сваёй "Брыганціне", дзіцячаму радыёклубу пры ЖЭС-35, пра які слава ішла ва ўсе канцы: 600 хлопчыкаў і дзяўчынак "захварэлі" на радыёаматарства дзякуючы Маргарыце Іванаўне за два дзесяцігоддзі яе кіраўніцтва клубам. Двух майстроў спорту выхавала яна, 12 кандыдатаў у майстры, а першаразраднікаў не падлічыць. А калі пакінула работу (гады ўжо не тыя), перадала "Брыганціну" ў надзейныя рукі — свайму быламу выхаванцу. І дзейнічае радыёклуб да гэтага часу.

Між іншым, жанчын-радыёаматараў ва ўсім свеце няшмат. Таму нават існуе такі незвычайны міжнародны дыплом — "Працаваў з 100 жанчынамі розных краін". У тыя гады, калі Маргарыта Іванаўна пачынала, іх, жанчын-радыёаматараў, па пальцах можна было пералічыць. І калі яна выходзіла ў эфір, адбою, як гаворыцца, не было. Асабліва ад амерыканцаў-радыёаматараў, якія вельмі жадалі атрымаць той дыплом.

— Праводзяцца штогадовыя аматарскія спаборніцтвы, — расказвае гаспадыня, — дзе мужчыны перадаюць ацэнку сігнала плюс свой узрост. У жанчын па джэнтльменскіх законах аб узросце не прынята пытацца, таму ў канцы сувязі мы перадаем толькі два нулі, што абазначае — па сувязі жанчына. Іншы раз гэта прыводзіла і прыводзіць да смешных казусаў. "Дык вы дзяўчына?" — перапытваюць у эфіры, мяркуючы завесці знаёмства. Я ў адказ: "Былая. У мяне ўжо двое дзяцей". А цяпер ужо адказваю: "Бабуля з вялікім стажам".

Мы разглядалі "кюэсель" — карткі, якія пацвярджаюць сувязь, што адбылася ў эфіры. Але іншы раз эфірныя сябры не абмяжоўваюцца гэтымі афіцыйнымі карткамі, дасылаюць фотакарткі, пісьмы, у якіх больш падрабязна расказваюць пра сябе, сваю сям'ю. Радыёаматар з Ватыкана даслаў каляровую фотакартку свайго дома, што якраз насупраць славутага сабора святога Пятра. І радыёантэна непасрэдна з акна яго кватэры выведзена.

Між іншым, антэна на даху пяціпавярховага дома, у якім жыве Маргарыта Іванаўна, доўгія гады была своеасаблівай візітнай карткай, на якую не мог не звярнуць увагі ні адзін радыёаматар, што праходзіў міма. Здаралася, проста званілі ў дзверы, жадаючы пазнаёміцца з гаспадаром, зусім не ўяўляючы, што калегай з'яўляецца менавіта вось гэтая невялікага росту сімпатычная жанчына ў гадах, якая адчыніла дзверы. І нярэдка бывалі нечаканы госць ні быў (здаралася нават, што замежны), яго запрашалі ў дом, частавалі чаем са смачнымі пірагамі, якія Маргарыта Іванаўна заўсёды пячэ сама.

Аднойчы надарылася ёй прымаць госця з Галандыі. Пазнаёміліся яны ў эфіры, высветлілася, што англічанін Браен Тордаф, як і Маргарыта Кальмаева, ваяваў, быў радыстам. Пасля вайны пераехаў жыць у Галандыю, з сімпатыяй ставіцца да Савецкага Саюза, ужо быў тут некалькі разоў па турыстычнай пуцёўцы, але вельмі хацелася б пажыць, пагасцяваць у сям'і. Прыехаў раз, другі, а на трэці ... павёз у Галандыю жонку — дачку гаспадыні Людмілу Кальмаеву, мастачку і вельмі абаяльную жанчыну. Так што з часам Маргарыта Іванаўна змагла падарожнічаць і перасячы ўжо рэальныя граніцы, а не эфірныя. Зяць звазіў цешчу ў Парыж, Бруге, бельгійскі горад, вядомы на ўвесь свет музеем вялікага мастака Пітэра Брэйгеля, пабывала яна ў Германіі. І, канешне ж, сустрэлася з сваімі эфірнымі сябрамі з невялічкага галандскага горада Мідлбурга. Дарэчы, яны праз Браена нейк падарылі світэр, на якім вывязаны яе пазыўныя і імя — Рыта.

Усё даспадобы прыйшлося Маргарыце Іванаўне: прыгожыя чыстыя гарады, музеі, шыкоўныя магазіны, але застацца за мяжой — нават у думках такога не было. У англійскім радыёвілетэні Браен Тордаф змясціў заметку пра сваю цешчу-радыёаматара. А яшчэ напісаў, што хаця яна і не заможная, але застаецца на Захадзе не захацела.

А яна тлумачыць гэта так:

— Душэўных адносін там такіх няма, як у нас, кожны толькі за сябе. Не, яны зусім не чэрствыя, дапамагаюць камусьці, аддаюць у "армію выратавання" непатрэбную вопратку ці яшчэ што. І ўсё ж... усё ж гэта не зусім тое, бо чалавеку перад ўсё словы спачування, разумення патрэбны, каб нехта раздзяліў яго радасць ці бяду. Не, наш народ больш душэўны, ні з якім не параўнальны.

...Некалькі год мы не бачыліся з Маргарытай Іванаўнай, і, прызнаюся, калі я ёй званіла, каб дамовіцца аб сустрэчы, крыху хвалявалася: усё ж гады не немалыя, можа зусім ужо слабенькая. Але пачула ў адказ бадзёры малады голас. Радыёаматарства яна не кінула. Праўда, у эфір ужо не так часта выходзіць, як раней. Старую ваенную рацыю змяніла новая, больш кампактная — падарунак Беларускай асацыяцыі радыёаматараў. Гаспадыня дома паранейшаму гасцінная, энергічная, захопленая. І я зноў пераконваюся, што мая цёзка валодае цудоўным талентам — уменнем жыць цікава, напоўнена, не зацыкліваючыся на ўзросце сваім і праблемах.

Ужо год, як Маргарыта Іванаўна захапілася біяпакацыяй, навучылася чэрпаць энергію з Космасу.

— Я паставіла перад сабой мэту, — расказвае яна, — падтрымліваць сваё здароўе без лекаў, а таксама дапамагаць у гэтым людзям (вядома, бескарысліва). Многім дадзены такі дар, але нямногія перашкаджае па-сапраўднаму авалодаць ім, сяму-таму я і дапамагаю. Адна з груп, з якімі я займаюся, прыходзіць да мяне дамоў. А яшчэ мы молімся за нашых славянскіх братоў і сясцёр у Югаславіі. Дай Божа, каб мір нарэшце прыйшоў на іх зямлю.

**...7 мая, у Дзень радыё, у эфіры краін СНД адбылася вахта памяці ў гонар радыёаматараў, якія загінулі. Беларусь на гэтай вахце прадстаўляла ветэран вайны Маргарыта Кальмаева. Прымала яна ўдзел і ў сёлетнім радыёмемарыяле "Перамога", які праходзіў з 5 па 9 мая. 250 сустрэч у эфіры адбылося ў яе за час мемарыяла. Трапілася пры гэтым некалькі знаёмых. Адзін з іх — Міхаіл Камісарчык, які калісьці ў Мазыры працаваў з дзецьмі ў радыёклубе, а цяпер гэткі ж самы клуб у Ізраілі арганізаваў.**

**А потым на ўрачыстым вечары ў гонар Дня Перамогі ў прэзідыуме сядзела радавы вайны Маргарыта Кальмаева. Адзіная жанчына сярод генералаў.**

**Маргарыта СТАРЫХ.**

*У час замежных вандровак.*




# ВІДЭА ПА-БЕЛАРУСКУ

НЯДАЎНА пачула ад сваіх знаёмых прыемную навіну: з'явіўся мультыплікацыйны фільм кампаніі Уолта Дыснея, дубліраваны па-беларуску. Каб даведацца падрабязнасці, патэлефанавала па нумары 228-45-88, напісаным на відэакасеце. Мяне запрасілі ў фірму "Sotvar", дзе я пазнаёмілася з фундатарам праекта Алесем Гурковым. Вось што мне ўдалося даведацца пра "беларускае відэа": "Прыгажуня ў сонным лесе" — выдатная экранізацыя класічнай казкі Шарля Перо, аздобленая чароўнай музыкай П. Чайкоўскага. Для агучвання роляў па-беларуску запрасілі акцёраў Тэатра юнага гледача. Гэта наша першая работа. У наступным месяцы плануем выпусціць "Алісу ў краіне цудаў". Пераклад з англійскай ужо зроблены.

— Вы лічыце, што такі праект можа стаць акупным?

— Наш праект не камерцыйны, бо ён скіраваны на культурнае і моўнае выхаванне беларускіх дзетак, — патлумачыў Алесь Гуркоў.

А што датычыць акупнасці, то спадзяюся, што ў нашай краіне знойдзецца 500 чалавек (а менавіта столькі касет трэба прадаць, каб пакрыць выдаткі на адзін фільм), якія пажадаюць набыць нашу "Прыгажуню".

— Колькі фільмаў плануеце перакласці?

— Усё залежыць ад попыту на прадукцыю. Калі будзем бачыць, што людзям гэта падабаецца, будзем працаваць. Я веру ў "беларускае відэа".

— Вы плануеце займацца толькі відэапрадукцыяй?

— Не. Хутка выйдзе аўдыёкасета з запісамі беларускіх калыханак і казак. Летам хацелі б зрабіць некалькі забаўляльных праграм для дзетак — магчыма, недзе ў парку ці за горадам. Дзеці павінны вучыцца гаварыць па-беларуску.

**Надзея АЛЯКСЕЕВА.**

НАТАТКІ З НАГОДЫ




# ЖЫЦЬ І АДПАЧЫВАЦЬ ПРЫГОЖА

Звычайна большасць людзей успамінаюць свае юнацкія гады з цёплым пачуццём, на якое мала ўплываюць асаблівасці часу. Усё роўна здаецца, што тады і цукар быў саладзейшы, і вада макрэйшая. Мабыць, справа ў тым, што вочы нашы былі яснейшымі. Мы маглі адчуваць больш непасрэдна, і ўсё жыццё было яшчэ наперадзе. Самае лепшае жыццё. Маладому чалавеку наогул мала трэба, каб адчуць сябе шчаслівым. Але каб стаць шчаслівым сталым чалавекам, тоесёе моладзь павінна мець. І ў першую чаргу, магчымасці — атрымаць адукацыю, медыцынскую дапамогу, працу, каб зарабіць сабе на жыццё.

Ведаеце, колькі маладых людзей сёння жыве на зямлі? Па даных ААН, каля аднаго мільярда чалавек. Вынікам высокай нараджальнасці ў свеце за мінулыя гады стала самае шматлікае за ўсю гісторыю чалавецтва пакаленне маладых людзей. Яны складаюць 17,6 працэнта насельніцтва.



А вось беларусаў, на жаль, становіцца менш. Па прагнозах ААН, у 2025 годзе нас будзе прыкладна 9,6 мільёна (сярэдні тэмп прыросту насельніцтва ў краіне мінус 0,1). І ўсё роўна — моладзь застанецца значнай часткай грамадства.

Развіццё ўсіх сфер жыцця ў XXI стагоддзі магчымае толькі, калі ўжо цяпер знойдуцца грошы для інвестыцый у такія сферы, як адукацыя, працаўладкаванне, медабслугоўванне.

Прысутнічае тут і маральны аспект. Калі малады чалавек з нараджэння бачыць вакол сябе бруд і неахайнасць, ён пачынае ўспрымаць іх як належнае. І будзе лічыць, што інакш немагчыма. І, наадварот, — калі вакол цябе прыгажосць, калі ты прывык да камфорту, нармальных умоў існавання, ёсць надзея, што ты зробіш усё, каб твае дзеці жылі не горш. А гэта паўплывае на якасць жыцця грамадства ў цэлым. Таму менавіта такое светаадчуванне выгадна дзяржаве. Якія б мы ні былі розныя, нас аб'ядноўвае мара: мы вельмі хочам, каб нашы дзеці жылі лепш за нас.

Таму, калі ў Мінску адкрываецца новае кафэ, тым больш са "Спяваючымі фантанамі", можна толькі парадавацца. Няхай моладзь прызвычаіцца да таго, што жыць і адпачываць трэба прыгожа.

**Алена СПАСЮК.**
Фота Віктара СТАВЕРА.

## АДКАЗЫ НА КРЫЖАВАНКУ, ЗМЕШЧАНУЮ Ў «ГОЛАСЕ РАДЗІМЫ» №№ 17—18

*По гарызанталі.* 3. Літара. 6. Курсы. 7. Музей. 8. Нота. 10. Кнот. 11. Прафан. 13. Калега. 17. Парча. 18. Сенцы. 20. Бутэлька. 22. Кукарда. 25. Разлад. 26. Рала. 28. Абат.

*Па вертыкалі.* 1. Мітынг. 2. Прымат. 4. Лучына. 5. Метка. 9. Павага. 12. Рыза. 14. Лейцы. 15. Кашнэ. 16. Пастка. 19. Кулак. 21. Лорд. 23. Уклад. 24. Раман. 26. Ра́са. 27. Агат.

# КОНКУРС

**З блаславення і дзякуючы гарачай падтрымцы Яго Эмінэнцыі Кс. Кардынала Казіміра Свёнтэка, Каталіцкі клуб жанчын, які дзейнічае пры касцёле св. Сымона і св. Алены ў Мінску, звяртаецца да ўсіх парафій Беларусі і сардэчна запрашае дзяцей і моладзь ва ўзросце ад 9 да 17 гадоў да ўдзелу ў конкурсе:**

## «МАЦІ БОЖАЯ БУДСЛАЎСКАЯ Ў МАІМ ЖЫЦЦІ І ЖЫЦЦІ БАЦЬКАЎШЧЫНЫ»

### Малюнкі

**Абраз Маці Божай Будслаўскай**

Намаляваць толькі сам абраз альбо абраз з вялікім алтаром у Санктуарыі, усяночнае чуванне-адарацыю люду Божага перад Цудадзейным Абразом, альбо Цудадзейны Абраз у маім парафіяльным касцёле, альбо на сцяне ў маім доме, кватэры, над чарнобыльскай зямлёй, над нашым краем, краявідам, над маёй вёскай, над маім горадам.

**Санктуарый Марыйны Будслаўскай святыні**

Намаляваць касцёл і кляштар, альбо працэсію апоўначы з запаленымі свечкамі, альбо ўрачыстае набажэнства 2 ліпеня і г. д.

**Маё бачанне пілігрымкі, якая ідзе да Санктуарыя ў Будславе**

Намаляваць, як бачылася пілігрымка моладзі альбо дарослых, святароў і сясцёр законных і іх душпастырскую працу падчас пілігрымкі; як людзі прымаюць пілігрымаў, супольную Святую Імшу на адной са стаянак пілігрымкі, як сустракаюць пілігрымку ў Будславе і г. д.

Праца павінна быць выканана **алоўкам, акварэллю** альбо **алейнай фарбай** памерам ад фармату аркуша паперы А4 і да адвольнага фармату, згодна з жаданнем.

### Паэзія — вершы, паэмы

**Аб цудадзейным Абразе Маці Божай Будслаўскай.**

**Аб Санктуарыі — кляштары Будслаўскім:**

(З гісторыі айцоў Бернардынаў у Будславе — апекуноў святога месца).

**Аб розных пілігрымках да Будслава і іх удзельніках — пілігрымах як маладых, так і дарослых**

Напісаць, як я бачыў (бачыла) пілігрымку моладзі альбо дарослых, святароў і сясцёр законных і іх душпастырскую працу падчас пілігрымкі, як людзі прымаюць пілігрымаў, супольную Святую Імшу на адной са стаянак пілігрымкі, як сустракаюць пілігрымку ў Будславе, якое ўражанне зрабіла на цябе і іншых сама пілігрымка і Санктуарый Марыйны і г. д.

### Проза — апавяданне, эсэ, успаміны

**Якія пачуцці давялося перажыць падчас пілігрымкі да Цудадзейнага Абраза Маці Божай Будслаўскай**

Напісаць, як я бачыў (бачыла) пілігрымку моладзі альбо дарослых, святароў і сясцёр законных і іх душпастырскую працу падчас пілігрымкі, як людзі прымаюць пілігрымаў, супольную Святую Імшу на адной са стаянак пілігрымкі, як сустракаюць пілігрымку ў Будславе, якое ўражанне зрабіла на цябе і іншых сама пілігрымка і Санктуарый Марыйны і г. д.

АПЯКУНКА БЕЛАРУСІ

МАЦІ БОЖАЯ БУДСЛАЎСКАЯ

Якія ласкі атрымалі ты альбо твае блізкія, знаёмыя падчас пілігрымкі і знаходжання ў Санктуарыі.

**Маці Божая ў маім жыцці, жыцці маёй сям'і, родных і знаёмых, у жыцці маёй Бацькаўшчыны.**

Тэхніка ўсіх трох відаў прац адвольная, у духу каталіцка-хрысціянскіх традыцый. Працы не падпісваць, а прысылаць пад дэвізам. Да працы дадаць заклееныя канверт з поўнымі звесткамі аб аўтары (імя, прозвішча, узрост, адрас). На канверце зверху напісаць толькі дэвіз і ўзрост.

**Конкурс прызначаны на 10 гадзін у нядзелю 19 верасня 1999 г.**

**Прадугледжаны наступныя ўзнагароды:**

**3 чалавекі — І месца, 9 чалавек — ІІ месца, 18 чалавек — ІІІ месца, 5 чалавек — заахвочвальная прэмія.**

**Усе ўдзельнікі-пераможцы ў якасці ўзнагароды атрымаюць вакацыйную паездку ў** ПОЛЬШЧУ **альбо** ГЕРМАНІЮ.

Лепшыя працы будуць завезены для выставы ў тую краіну і горад, дзе будуць адпачываць дзеці. Пасля ўсе гэтыя працы як мастацкія, так і літаратурныя будуць размешчаны ў музеі Марыйнага Санктуарыя ў Будславе.

**Усе астатнія ўдзельнікі Марыйнага конкурсу атрымаюць памятныя ўзнагароды як дарунак удзячнасці за вялікую любоў да Маці Божай і Яе Санктуарыя ў Будславе.**

**Сардэчна запрашаем моладзь і дзяцей Беларусі актыўна ўдзельнічаць у гэтым Марыйным конкурсе.**

Працы дасылаць не пазней **1 верасня 1999 года** альбо прыносіць на адрас:

**220050, пл. Незалежнасці, 15. Касцёл св. Сымона і св. Алены. Мінск, тэл. 220-44-15, fax. 220-55-61.**

(Для іншагародніх **код 8-017** + мінскі тэлефон альбо факс).

**Камісія Марыйнага конкурсу.**

«Голас Радзімы»

Рэдактар
Наталля САЛУК

Заснавальнікі:
Дзяржаўны камітэт па справах рэлігій і нацыянальнасцей Рэспублікі Беларусь; Беларускае таварыства дружбы і культурнай сувязі з зарубежнымі краінамі; Беларускае таварыства па сувязях з суайчыннікамі за рубяжом (таварыства "Радзіма").

Пазіцыі рэдакцыі і аўтараў, матэрыялы якіх друкуюцца на старонках «Голасу Радзімы», не заўсёды супадаюць.
Газета набрана, звярстана і аддрукавана ў друкарні «Беларускі Дом друку». (220041, г. Мінск, пр. Скарыны, 77).
Тыраж 1 625 экз. Індэкс 63854. Зак. 1013.
Падпісана да друку 31.05.1999 г. у 12.00.
Рэгістрацыйнае пасведчанне № 81.

Наш адрас:
220005, Мінск,
пр. Ф. Скарыны, 44.
Тэлефоны:
(+375-17) 213-31-97,
213-32-80, 213-30-15,
284-76-56, 213-37-82